19 лютага 2021 | № 7 (715)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
ISSN 2218-2144

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Ганна Сола не падпісалася за ўладу**
стар. 10



# У салідарнасці — наша сіла

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Раніца 16 лютага пачалася для беларускіх незалежных журналістаў і праваабаронцаў не з кавы. Па ўсёй краіне пранёсся шквал ператрусаў — як у офісах, так і ў прыватных кватэрах.**

Ад сёмай гадзіны раніцы ў сябраў Праваабарончага цэнтра «Вясна», Беларускай асацыяцыі журналістаў і іншых актывістаў праходзілі вобшукі. Як стала вядома, яны адбываліся ў межах крымінальнай справы па арт. 342 (Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх) Крымінальнага кодэкса. Следчыя мяркуюць, што праваабарончыя арганізацыі могуць быць датычныя да фінансавання пратэстаў.

Адметна, што да ўсіх уламваліся ледзь не адначасова, што сведчыць пра спланаваную аблаву — іншым словам гэта не назавеш.

У прэс-сакратара БАЖ Барыса Гарэцкага нязваныя візіцёры зазірнулі нават у сметніцу, лядоўню, бляшанку з-пад кавы, забралі тэхніку, у тым ліку тэлефоны дзяцей, сямейныя грошы. Старшыня БАЖ Андрэй Бастунец прысутнічаў пры ператрусе офіса арганізацыі, з якога таксама вынеслі ўсю тэхніку, дакументы, а дзверы апячаталі. Сілавікі ператрэслі і кватэру яго сына. Зладзілі вобшук і ў намесніка старшыні арганізацыі юрыста Алега Агеева — ён прачнуўся пад гукі заведзенай балгаркі, якой збіраліся выносіць дзверы кватэры. Таксама ператрус прайшоў у юрысткі Крысціны Рыхтэр, у яе забралі тэлефон, дакументы, датычныя да дзейнасці БАЖ.

З ператрусам прыйшлі да каардынатара кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі», праваабаронцы «Вясны» Андрэя Палуды. Больш за тры гадзіны трэслі кватэру маці мінскай праваабаронцы Наталлі Сацункевіч. Уламіліся да юрыстаў Паўла Сапелкі, Змітра Салаўёва. Пры затрыманні ў хаце Салаўёва выламалі дзверы. У офісах самой «Вясны» таксама прайшоў ператрус, як і дома ў яе кіраўніка Алеся Бяляцкага.

Узяліся і за прадстаўнікоў незалежнага прафсаюза РЭП: ператрусы прайшлі ў Ігара Комліка і Андрэя Комліка-Ямаціна, а таксама ў офісе прафсаюза.

Мінск, Гомель, Магілёў, Віцебск, Брэст, Гродна — геаграфія вобшукавых акцый у блізу чатырох дзясяткаў праваабаронцаў і журналістаў. Дабраліся нават да бацькоў каардынатара кампаніі BYSOL Андрэя Стрыжака ў Рэчыцы, а таксама зазірнулі на здымную кватэру ў Гомелі, дзе жыве яго ўжо былая жонка.

Старшыня БАЖ Андрэй Бастунец мяркуе, што хваля ператрусаў звязаная з агульнай тэндэнцыяй ціску на грамадзянскую супольнасць у Беларусі, і гэта ўжо нікога не здзіўляе. Сапраўды, цягам апошняга года нас планамерна рыхтавалі да ўзмацнення рэпрэсій. Узгадайце, як мы здзіўляліся і абураліся затрыманню акрэдытаваных журналістаў «Радыё Свабода» ў чэрвені, і якімі будзённымі нам здаюцца гэтыя лютаўскія напады.

Адзінае, што сёння ўсё яшчэ здзіўляе, — гэта што нехта спадзяецца адседзецца ў цені і перачакаць цёмныя часы. На жаль, кожны з нас павінен быць гатовым да таго, што можа стаць наступным, хоць і не робіць нічога супрацьзаконнага. Бо іначай пры таталітарызме не бывае: рэпрэсійная машына закранае ўсіх — прычым не толькі апанентаў рэжыму, але і яго служак. І тыя, хто «не цікавіцца палітыкай», — уяўляеце, якім будзе вашае здзіўленне, калі вы даведаецеся, у які канцлагер вас прывезлі? Узгадайце гісторыю: тыя, хто праводзіў рэпрэсіі ў 1920-я, самі трапілі пад каток у 1930-я. Кожная наступная хваля рэпрэсій змятала ў тым ліку і тых, хто яшчэ нядаўна сам выбіваў прызнанні.

Адседзецца не ўдасца нікому, калі будзем маўчаць і спадзявацца, што нас гэта не зачэпіць, — прыйдуць да кожнага. Проста таму, што гэта, як трапна заўважыў праваабаронца «Вясны» Валянцін Стэфановіч, «логіка рэпрэсій».

Але ёсць і добрая навіна: увесь гэты ціск — усяго толькі спроба рэжыму заглушыць свой страх. Яны думаюць, што калі прымусяць нас баяцца, то ацалеюць, выжывуць і змогуць яшчэ безліч гадоў лютаваць за нашы грошы.

Аднак гэта не так. Сёлета беларусы як ніколі паказалі, што наша моц — у салідарнасці. І калі ўчора прыйшлі да тых, хто бараніў нас, сёння мы самі станем на іх абарону. Насамрэч у кожнага з нас ёсць дзясяткі спосабаў гэта зрабіць: даць у карыстанне старую тэхніку, прывезці прадукты, напісаць ліст са словамі падтрымкі... Варыянтаў шмат!

Салідарнасць забівае страх. А кожная хваля рэпрэсій толькі пацвярджае — вясна блізка... Так што захоўваем спакой і верым у перамогу!

# «Ці то сюр, ці то фарс». Што не так з Тыднем роднай мовы – 2021

Вікторыя ЦЕЛЯШУК

**Прэс-служба Нацыянальнай акадэміі Навук Беларусі анансавала з 15 лютага правядзенне Тыдня роднай мовы. Што з гэтай ідэяй не так і чаму дзяжурныя прызнанні ў любові да роднай мовы выглядаюць фарсам і чарговай імітацыяй спакою і дабрабыту?**

Міжнародны дзень роднай мовы зацверджаны рашэннем Генеральнай сесіі ЮНЕСКА, і з 2000-га адзначаецца штогод 21 лютага. Традыцыйна далучаецца да свята і Беларусь, прычым у нас праводзяць не проста дзень, а цэлы Тыдзень роднай мовы (што прыемна), аднак толькі раз на год (што не можа не засмучаць).

Вось і сёлета перадапошні тыдзень лютага абяцае быць насычаным: у праграме мерапрыемстваў, прымеркаваных да Тыдня роднай мовы, — шматлікія «круглыя сталы». Напрыклад, да 160-годдзя вядомага этнографа Яўхіма Карскага, 100-годдзя Інбелкульта, прэзентацыі кніг і дакументальных фільмаў, сустрэчы з мовазнаўцамі, навукова-практычныя семінары, адкрыты конкурс апавядальнікаў беларускай народнай прозы «Кацігарошак», рэспубліканская дыктоўка па беларускай мове, нават гульня-віктарына для школьнікаў па фразеалогіі і безэквівалетнай лексіцы.

Афіцыйны каментар прэс-службы НАН Беларусі гучыць важка: «У 2021 годзе, вызначаным у нашай краіне як Год народнага адзінства, асаблівае значэнне набывае навукова-практычнае забеспячэнне паспяховага функцыянавання беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, у якіх павінна выкарыстоўвацца дзяржаўная мова краіны і мова тытульнай нацыі. База для гэтага створана ў акадэмічным Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН».

Насамрэч, у перакладзе з чыноўніцкай мовы на чалавечую, тут па сутнасці не сказана нічога, гэта яскравы ўзор фармалізму кшталту «правесці мерапрыемства, зрабіць справаздачу і забыцца да наступнага разу».

Згадаем: усяго некалькі дзён таму Лукашэнка на Усебеларускім народным сходзе агучыў нібыта планы апазіцыі прымусова ўвесці ва ўсе сферы, ад дзіцячага садка да арміі, беларускую мову, а расійскую паступова забараніць. І каго хвалюе, што падобнай праграмы наогул не існуе, бо галоўнае — пасеяць разлад.

Яшчэ раз, каб уявіць у дэталях: кіраўнік Беларусі палохае грамадзян Беларусі, што іх прымусяць (!) вывучаць і выкарыстоўваць беларускую мову — адну з дзвюх дзяржаўных і, паводле перапісу 2019 года, родную як мінімум для 61,2% беларусаў (паводле звестак Белстату, гэта 4 893 139 чалавек).

І, на дэсерт, рэпліка таго ж выступоўцы: «В великом русском языке есть часть белорусской души. Русский язык будет достоянием нашей нации». У якой яшчэ краіне падобнае магчыма?

Зрэшты, раней вызначыліся ў «любові» да беларускай мовы і самі акадэмікі. Ці памятаеце, улетку 2020-га ў навуковым часопісе «Справаздачы Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі» ўбачыў свет дзіўны артыкул «Беларуска-рускае дзвюхмоўе — гістарычна складзеная гісторыка-культурная каштоўнасць народа».

Аўтары — старшыня прэзідыума НАН РБ, доктар эканамічных навук Уладзімір Гусакоў і акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН РБ, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя, збіваючыся з навуковых тэрмінаў на публіцыстычны пафас, распавядалі пра блізкасць і сяброўства дзвюх моваў і пра тое, што беларуская, канешне, грае важную ролю ў духоўнасці і менталітэце народа, але толькі ў непарушным тандэме з рускай.

У тэксце, напрыклад, сустракаюцца такія пасажы: «Отмечая многие непреходящие достоинства белорусского языка и, прежде всего, такие, как душевность, гибкость и адаптивность, хотелось бы несколько сказать и о ценности русского. Думаем, не стоит кого-то убеждать, что русский язык — это мировой язык, отражающий мощную русскую культуру как составную и неотъемлемую часть мировой, на котором созданы крупнейшие и непреходящие культурные ценности. Обладание ими придает мощь и силу, знания и уверенность. Истинные произведения русского народа основаны на подлинных ценностях человечности, морали и нравственности, они впитали в себя все лучшее, на что способен славянский русский и православный этнос...».

Не дзіва, што артыкул выклікаў суцэльны скандал. Але на фоне далейшых падзей гэта вельмі хутка адышло на дальні план, у кампанію да іншых «а можа, так і трэба».

Нітка да ніткі ўспамінаюцца сведчанні рэальнага, не на паперы, а на справе, стаўлення да беларускай мовы — ад насаджанага за шмат гадоў на ўзроўні падсвядомасці «па-беларуску размаўляе — відаць, БНФавец» да здзеклівых наватвораў «пратэстуны» і «змагары», ад бязлітаснай зачысткі беларускамоўных крамаў з нацыянальнай сімволікай да фактычнага вынішчэння Купалаўскага тэатра, які ўжо больш за паўгода не сустракае гледачоў беларускамоўнымі (і наогул ніякімі) пастаноўкамі, ад пахаванай недзе на паліцах нацыянальнай кінапрэм'еры «Купала» да звальнення і пераследу «нязручных» дзеячаў культуры, сярод якіх літаратары, музыканты, акцёры і рэжысёры, выкладчыкі, выдаўцы, кіраўнікі музеяў і многія іншыя...

І тут, нібы прывітанне з паралельнай рэальнасці, — днямі адбудзецца прэс-канферэнцыя «Захаванне беларускай мовы як галоўнага атрыбута нацыі і дзяржавы. Уплыў глабалізацыі на стан мовы». Ці то сюр, ці то фарс, ці звыкла-памяркоўнае «вы ж самі ўсё разумееце» — вам які варыянт больш даспадобы?

**Салідарнасць**

# Такое нават Кафка б не выдумаў

Ігар ІЛЬЯШ

**Адчуванне кафкіянскага жаху. Менавіта так я б ахарактарызаваў свае ўражанні ад другога дня судовага працэсу над Кацярынай Андрэевай і Дар'яй Чульцовай.**

Як высветлілася, следства і дзяржабвінаваўца маюць прэтэнзіі не да ўсяго стрыму, а толькі прыкладна да 10–12 фразаў Каці, якія яна сказала ў розных частках свайго шматгадзіннага эфіру. У гэтых фрагментах рэпартажу яна апісвала тое, што адбывалася на «плошчы Пераменаў» і наогул у Мінску: пратэстоўцы пайшлі туды, вайскоўцы з'явіліся там... А яшчэ аднойчы Каця назвала «смелымі» людзей, якія не разбегліся пасля таго, як сілавікі пачалі закідваць іх святлошумавымі гранатамі. У якой хворай свядомасці ўзнікла ідэя абвінаваціць дзвюх дзяўчат у каардынацыі беспарадкаў на падставе выкарыстання адной з іх словазлучэння «смелыя хлопцы»?..

За гэтыя 10–12 фразаў журналісткам пагражае да трох гадоў калоніі. Пры тым, што Чульцова нават гэтых бяскрыўдных словаў не казала. У тых нешматлікіх фрагментах стрыму, што разглядаліся ў судзе, гаворка ішла ў тым ліку пра забойства Рамана Бандарэнкі. І менавіта гэтае сумяшчэнне злачынстваў і стварала адчуванне кафкіянскага жаху. Бандарэнку забілі. Ягоныя забойцы не проста не пакараныя — нават крымінальнай справы ніхто не распачаў.

Пракурор Аліна Касьянчык ведае гэта. У чарговы раз слухае пра гвалтоўную смерць чалавека. Але яе гэта зусім не хвалюе і не кранае. Яна занятая больш важнай справай: незаконным пераследам журналістак за іх прафесійную дзейнасць. Гэта квінтэсенцыя той татальнай прававой сегрэгацыі, у якую пагрузілася краіна. Забойства іншадумца не лічыцца злачынствам у сённяшняй Беларусі. А стрым з акцыі памяці забітага іншадумца — гэта злачынства. Такое нават Кафка б не выдумаў.

Нагадаем, працэс над журналісткамі Кацярынай Андрэевай (Бахвалавай) і Дар'яй Чульцовай пачаўся 9 лютага ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска. Іх затрымалі 15 лістапада 2020-га, пасля стрыму з «плошчы Пераменаў».

Ім прад'явілі абвінавачванне па частцы 1 артыкула 342 КК «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх». Справу разглядае суддзя Наталля Бугук, абвінавачванне прадстаўляе Аліна Касьянчык, Дар'ю Чульцову абараняе адвакат Аляксандр Хаецкі, Кацярыну Бахвалаву — Сяргей Зікрацкі.

На момант здачы нумару ў друк было вядома, што прысуд агучаць а 10-й раніцы 18 лютага.

# «Любоў да журналістыкі і Беларусі

**Дар'я Чульцова нарадзілася і правяла дзяцінства ў Шклове. Яе маці Наталля Церабіленка кажа, што дачка вельмі добрая і мэтанакіраваная, яна з дзяцінства мела шмат зацікаўленасцяў.**

«У дзяцінстве Дар'я вельмі любіла маляваць, нават хадзіла ў мастацкую школу. Гэта быў ейны нейкі асаблівы свет — маляванне. Пасля яна закамандавала набыць ёй гітару і пачала вучыцца граць на гітары. А больш за ўсё Даша любіла пісаць. У яе заўсёды быў нейкі сшытак ці нататнік з сабой, і яна ўсё пісала, пісала, пісала», — згадвае Наталля.

Спачатку Наталля нават і не здагадвалася, да чаго прывядзе любоў Дашы да пісання. А калі дачка ўпершыню адкрыта сказала пра жаданне быць журналістам, дома ўспрынялі гэта як жарт. У 11-м класе Даша паўторна агучыла свой намер ісці ў журналістыку. Вось тады родныя ўжо рэальна занепакоіліся. Яны адгаворвалі Дашу нават на этапе падавання дакументаў ва ўніверсітэт. Але ўсё было марна, Дашу гэта не спыніла.

«Яна быццам бы слухае мяне, слухае, але ўсё роўна робіць па-свойму. І пераканаць яе ў нечым вельмі складана. У яе такая пазіцыя, што яна сама сабе гаспадыня. Дакладна, Даша вельмі мэтанакіраваная. А цяпер мне пра яе пішуць людзі, што я выгадавала неймаверную дачку», — кажа Наталля.

Перад тым, як падаць дакументы на аддзяленне «журналістыка» ў Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Куляшова, Даша сказала маці: «Калі не ў журналістыку, то я наогул нікуды не пайду». Так і паступіла вучыцца на журналістку.

Ва ўніверсітэце Даша разам з аднакурснікамі рыхтавала самвыдат. Ужо тады перад дзяўчынай паўстала пытанне, якую ролю яна хоча выконваць і дзе працаваць далей. Каб вызначыцца, Дашы спатрэбіліся час і досвед.

З 2019 года Даша пачала супрацоўнічаць з тэлеканалам «Белсат». Як журналістка яна працавала разам з аператарам Міхасём Аршынскім.

«Мы ездзілі па розных гарадах Магілёўскай вобласці, здымалі рэпартажы аб праблемах звычайных людзей. Паказвалі, як мяняецца жыццё чалавека, калі ён сутыкаецца з гэтай бюракратычнай сістэмай», — кажа Міхась Аршынскі пра сваю працу з Дашай Чульцовай.

Міхась, як ужо дасведчаны журналіст, вучыў Дашу быць універсалам у сваёй прафесіі. Каб аднолькава добра і напісаць тэкст, і зняць і змантаваць відэа.

Рэпрэсіі ў дачыненні да Дашы за журналісцкую дзейнасць пачаліся яшчэ ў Магілёве. Двойчы магілёўскія суды каралі Дашу штрафам паводле ч. 2 арт. 22.9 КаАП за супрацу з «Белсатам». Але гэта не адштурхнула дзяўчыну ад прафесіі.

«Даша з тых людзей, якія свядома і без страху развіваюцца і праз гэтыя выпрабаванні робяцца прафесіяналам. Я бачу, што за вельмі кароткі час Даша моцна ўзняла свой прафесійны ўзровень. І я проста ўпэўнены, што яна выйдзе і працягне шлях у журналістыцы», — кажа Міхась Аршынскі.

«Яны думаюць, што ўсё могуць. Захацелі пасадзіць — пасадзілі. А што справы няма — то справу прыдумалі. Я лічу, што Каця і Даша сядзяць ні за што, яны не вінаватыя, яны проста выконвалі ўласную працу», — разважае Наталля, Дашына маці.

Наталля кажа, што суд над яе дачкой паказальны. На ейную думку, такім чынам хочуць запужаць іншых журналістаў, каб не ладзілі стрымы, не хадзілі на мітынгі, акцыі.

«А пра маладых людзей яны падумалі? Вось ужо колькі знявечаных лёсаў. Для іх людзі не важныя: на аднаго больш, на аднаго менш», — кажа Наталля.

І ўсё ж такі Наталля і ўсе сваякі, сябры і калегі Дашы і Каці ідуць на суд з надзеяй, што гэты абсурд вось-вось скончыцца. Ён абавязкова скончыцца. І дзяўчаты выйдуць на волю і працягнуць займацца любімай прафесіяй.

**Паводле «Белсат»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хлусня і рэпрэсіі — больш нічога

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ёсць у Беларусі інстытуты і міністэрствы, якія нам увогуле не патрэбныя. І кожны адмысловец у сваёй справе падкажа, якія. Журналісты лічаць такім Мініфармацыі, бізнесоўцы — Міністэрства антыманапольнага рэгулявання. А цяпер, як выявілася, нам не патрэбнае і Міністэрства культуры.**




Больш за 100 тысяч чалавек падпісалася пад петыцыяй супраць прызнання нацыянальнай сімволікі — бел-чырвона-белага сцяга — экстрэмісцкай. На тыдні яшчэ 100 студэнтаў і выкладчыкаў гістарычнага факультэта БДУ напісалі ліст у абарону БЧБ-сцяга. Што на гэта адказаў Мінкульт?

Мінкульт лічыць, што «пытанні абмежавання бел-чырвона-белай сімволікі заканадаўствам аб культуры не рэгулююцца і да сферы дзейнасці Міністэрства культуры не адносяцца». Так напісаў Валерый Грамада, намеснік міністра культуры.

Больш за тое, Мінкульт не можа надаць БЧБ-сцягу і статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Нібыта для гэтага «патрабуюцца матэрыялы фіксацыі, навуковай апрацоўкі і мастацкай ацэнкі культурнай каштоўнасці. Без гэтага прапановы аб наданні такога статусу не разглядаюцца».

Бел-чырвона-белы сцяг быў дзяржаўным сцягам з 1991 па 1995 гады. Якія яшчэ «матэрыялы фіксацыі» і «мастацкай ацэнкі» патрэбныя Мінкульту? Будзем шчырымі: Мінкульт проста самаўхіліўся ад сваіх абавязкаў.

Цікавая навіна прыйшла з «ковіднага» фронту. Беларусь заняла другое месца ў свеце ў «рэйтынгу хлусні» адносна статыстыкі COVID-19.

Гэты рэйтынг вылічваецца наступным чынам. З аднаго боку бярэцца паказчык залішняй смяротнасці — то-бок розніца паміж колькасцю памерлых у 2019 годзе і 2020-м. Мяркуецца, што гэтая розніца фарміруецца менавіта пандэміяй, бо ніякіх іншых смяротна небяспечных катаклізмаў у мінулым годзе не было. З другога боку аналізуюцца афіцыйныя лічбы смяротнасці, якія штодзённа агучвае Міністэрства аховы здароўя.

Вынік суадносін дзвюх статыстычных велічынь і дае «рэйтынг хлусні». І тут Беларусь заняла другое месца ў свеце — «нахлусілі ў 14,3 раза».

На 1-м месцы ў «рэйтынгу хлусні» знаходзіцца Узбекістан, ён нахлусіў у 28,7 раза — гэта розніца паміж тым, што Узбекістан афіцыйна паведамляў аб смяротнасці ад каронавіруса і залішняй смяротнасцю. На 2-м месцы — Беларусь, што цалкам чакана, бо Лукашэнка доўгі час увогуле не прызнаваў існаванне COVID-19. На 3-м месцы Егіпет, на 4-м — Казахстан, а на 5-м — Расія.

Вельмі цікава, што наконт COVID-19 у лідарах хлусні ўсе краіны Мытнага саюза і нашых інтэграцыйных аб'яднанняў. У той час, як эканамічныя паказчыкі ўсіх краін гэтага саюза падаюць (а менавіта для развіцця эканомікі гэты саюз і стваравўся), то «салідарныя паказчыкі дыктатуры» толькі растуць. Хлусня свайму народу — гэта паказчык дыктатуры, ці не так?

А карныя органы, падаецца, ужо і не ведаюць, што рабіць. З пункту гледжання права справы аб «масавых беспарадках» у судах проста развальваюцца. Напрыклад, у Гродне «ананімныя сведкі ў балаклавах» не памятаюць, каго яны затрымлівалі, хто што рабіў, ад грамадзянскіх пазоваў адмаўляюцца… Як на такіх паказаннях будаваць абвінавачванне супраць канкрэтных людзей? Таму, напэўна, было вырашана «біць па плошчах», — а раптам недзе нешта знойдзецца.

Раніцай 16 лютага па краіне прайшлі маштабныяператрусы ў журналістаў і праваабаронцаў. Раніцай прэс-сакратар Беларускай асацыяцыі журналістаў Барыс Гарэцкі паведаміў, што да яго ломяцца ў дзверы невядомыя.Ператрусы былі таксама ў старшыні БАЖ Андрэя Бастунца і намесніка арганізацыі Алега Агеева, у офісе арганізацыі. Прыехалі да гомельскай журналісткі-фрылансеркі Ларысы Шчыраковай.Ператрус правялі ў гомельскага журналіста Анатоля Гатоўчыца, магілёўскага журналіста-фрылансера Алеся Буракова-малодшага і журналіста Аляксандра Буракова.

Таксама «следчыя дзеянні» ў выглядзе ператрусаў былі ў сябраў магілёўскай філіі «Вясны» Аляксея Колчына і Барыса Бухеля, каардынатара кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Андрэя Палуды, у кіраўніка мазырскай філіі «Вясны» Уладзіміра Целепуна, а таксама ў кіраўніцы светлагорскай філіі Алены Маслюковай, у бацькоў віцебскай праваабаронцы Ірыны Траццяковай, у прэс-сакратаркі Беларускага Дома правоў чалавека імя Барыса Звозкава Яўгеніі Парашчанка, у маці мінскай праваабаронцы «Вясны» Наталлі Сацункевіч. У брэсцкага праваабаронца Уладзіміра Вялічкіна і бацькоў валанцёрак Кацярыны Бажко і Ганны Багдановіч — таксамаператрусы.

Узяліся і за прадстаўнікоў незалежнага прафсаюзу РЭП:ператрусы былі ў Ігара Комліка і Андрэя Комліка-Ямаціна.

Следчы камітэт паведаміў, што ўсеператрусы праходзілі ў межах расследавання крымінальнай справы па арт. 342 (Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх) КК РБ, а «канчатковая прававая ацэнка сітуацыі будзе дадзеная пасля праверджання ўсяго комплексу працэсуальных дзеянняў».

Варта зазначыць, што ўсе гэтыя арганізацыі і людзі, у якіх праводзілісяператрусы, не адно дзесяцігоддзе працавалі ва ўмовах нашай дыктатуры, пры гэтым жорстка і неаднаразова супрацьстаялі ціску ўлады. На іх дзе сядзеш — там і злезеш, а вось міжнародны розгалас такія дзеянні атрымаюць найвелізарны. Ужо хто-хто, а журналісты распаўсюджваць інфармацыю ўмеюць.

Таму «атрымаць адказ» за такія дзеянні вельмі лёгка. Улада забылася, што на падыходзе чацвёрты пакет санкцый ЕС? Дык ёй нагадаюць — абавязкова.

І нагадае не толькі ЕС. Міжнародны саюз біятланістаў змяніў статус этапу Кубка свету, які павінен прайсці ў Беларусі ў 2022 годзе, на статус «не пацверджана». Гэта зроблена «сыходзячы з цяперашняй сітуацыі ў Беларусі і перспектыў на дадзены момант». А дэпутаты Еўрапарламента, па ініцыятыве ўплывовых калег з Германіі, заклікалі ўвогуле ЎСЕ спартовыя арганізацыі перанесці свае імпрэзы з Беларусі.

Як вядома, вялікі спорт — гэта вялікія грошы. І гэтых грошай рэжым пазбавіцца.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Лявон Дзейка

**На 72-м годзе жыцця памёр палітык і грамадскі дзеяч, сацыял-дэмакрат і дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання Лявон Дзейка.**

Пра яго смерць паведаміў старшыня БСДП Ігар Барысаў. «Каронавірус не пашкадаваў яго. Зямля пухам, дарагі таварыш».

Лявон Дзейка раней працаваў інжынерам-электронікам на Клецкім механічным заводзе. Абраны дэпутатам ад Клецкай выбарчай акругі № 62.

Сябра парламенцкай апазіцыі БНФ і фракцыі БСДГ. Удзельнічаў у распрацоўцы Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, у галадоўцы дэпутатаў апазіцыі 11–12 красавіка 1995 года супраць ініцыяванага Лукашэнкам рэферэндуму аб змене дзяржаўнай сімволікі, скасавання статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, праве прэзідэнта распускаць Вярхоўны Савет і эканамічнай інтэграцыі з Расіяй. Быў прэс-сакратаром БСДГ, рэдагаваў партыйны сайт www.bsdp.org

Рэдакцыя НЧ выказвае шчырыя спачуванні родным і сябрам

## Марыя Калеснікава

**Каардынатарку штаба Віктара Бабарыкі і адваката Максіма Знака абвінавацілі яшчэ па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса.**



Гэта артыкулы 357 ч. 1 — змова ці іншыя дзеянні, учыненыя з мэтай захопу або ўтрымання дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, і 361-1 ч. 1 — стварэнне экстрэмісцкага фарміравання альбо кіраўніцтва такім фарміраваннем або структурным падраздзяленнем, якое ўваходзіць у яго. Новыя артыкулы дададзеныя да таго абвінавачання, якое было з верасня, — гэта значыць, да публічных заклікаў да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы (ч. 3 арт. 361 КК).

Нагадаем, што Максіма Знака затрымалі 9 верасня. Яго абвінавацілі ў закліках да дзеянняў супраць нацбяспекі (частка 3 артыкула 361 КК). 25 студзеня яму ў чарговы раз працягнулі тэрмін утрымання пад вартай да 9 сакавіка.

Марыя Калеснікава знаходзіцца за кратамі таксама з пачатку верасня. 16 верасня следчыя прад'явілі Марыі Калеснікавай абвінавачанне па ч. 3 арт. 361 (заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь, учыненыя з выкарыстаннем СМІ і сеткі інтэрнэт). Тэрмін утрымання ў СІЗА ёй падоўжаны да 8 сакавіка.

Звычайна артыкулы «давешваюцца», калі заканчваецца тэрмін расследавання і ўтрымання пад вартай, але доказаў злачынных дзеянняў так і не знойдзена.

## Мікалай Аўтуховіч

**Камітэт дзяржаўнай бяспекі абнавіў пералік арганізацый і фізічных асобаў, датычных да тэрарыстычнай дзейнасці. У спіс дадаліся 17 чалавек на чале з Мікалаем Аўтуховічам.**



Яшчэ 13 чалавек — гэта людзі, якіх КДБ лічыць паплечнікамі Мікалая Аўтуховіча. Сам Аўтуховіч, сям'я Разановічаў з Брэста, сям'я Мельхераў, Вольга Маёрава, Уладзімір Гундар, Галіна Дзербыш, Ірына Гарачкіна, Павел Сава, Віктар Снегур. Артур Папок — адзіны з іх, хто не арыштаваны, знаходзіцца ў вышуку. Яшчэ чацвёра — анархісты на чале з Ігарам Аліневічам.

Нагадаем, экс-палітвязню Мікалаю Аўтуховічу ўлады прыпісваюць падпал дома міліцыянта і падрыў аўто сілавіка ў Гродзенскай вобласці. Нядаўна на тэлеканале АНТ выйшаў двухсерыйны фільм, у якім заявілі, што Аўтуховіч рыхтаваў тэракты.

Цікава, што Аўтуховіча дадалі ў «тэрарыстычны спіс» яшчэ да суда. Справа ў тым, што ў 2009 годзе Аўтуховіча таксама абвінавачвалі ў тэрарызме і прыпісвалі яму нейкі «гранатамёт», з якога, нібыта, ён расстрэльваў дамы мясцовых кіраўнікоў. Аднак у выніку «гранатамёт» са справы знік у невядомым кірунку, а суд прызнаў яго вінаватым толькі ў незаконных дзеяннях адносна зброі — за 5 патронаў з паляўнічай стрэльбы, якія ён не заўважыў у сейфе і не здаў у міліцыю разам са стрэльбай.

а | Азбука паліталогіі

# Народжанае з хаосу ў хаос і вяртаецца



Сяргей НІКАЛЮК

**Кожны савецкі школьнік абавязаны быў ведаць аксіяматычнае сцвярджэнне — яно не патрабавала ніякіх доказаў! — пра загніванне Захаду. І кожны школьнік яго ведаў, аднак гэта не перашкаджала савецкім грамадзянам, нібы Элачка-людажэрка, ганяцца за матэрыяльнымі дасягненнямі загніваючай культуры: ад жуйкі да двухкасетнікаў.**




Няма нічога дзіўнага ў тым, што чарговы Усебеларускі народны сход гэту савецкую традыцыю працягнуў. Згадаем словы адзінага палітыка (АП): «Паглядзіце на падзеі за мяжой: лакдаўны, беспарадкі, бітвы вакцынаў. Пратэстамі, у іх самых радыкальных праявах, ахоплены і так званыя развітыя дэмакратыі — Злучаныя Штаты Амерыкі, краіны Заходняй Еўропы, Польшча, Францыя, Германія і іншыя. Свет палае. Давайце шчыра дадзім ацэнку ўсім гэтым падзеям».

Мароз па скуры. Як жыць далей? Але не спяшайцеся бегчы ў краму па мыла і вяроўку: «Па сутнасці, наша краіна сёння — гэта, калі хочаце, апошняя сапраўды суверэнная дзяржава ў Еўропе».

З гэтай прычыны і пакутуем.

### «Гэта» ў ролі забойцы

Уявім сабе на хвіліну, што культура, як і асобны чалавек, можа ставіць перад сабой мэты і імкнуцца іх дасягаць. Уявілі?

Пры такім дапушчэнні не складзе асаблівай праблемы здагадацца пра тое, што ёсць галоўнай мэтай культуры. Падобна кожнаму з нас (ад акадэміка да цесляра) культура абуджае імкненне… выжываць — або, кажучы навукова, узнаўляць.

Сучаснае грамадства, як мінімум, складаецца з трох пакаленняў: дзядоў, бацькоў і дзяцей. Носьбітамі культуры з'яўляюцца два старэйшыя пакаленні. Як эстафетную палачку, яны перадаюць свае культурныя навыкі моладзі. Гэта і ёсць асноўны механізм узнаўлення культуры. Пакаленні людзей змяняюцца, а культура застаецца.

Перадача эстафетнай палачкі часам суправаджаецца канфліктамі. Таму тэма ўзаемнага неразумення паміж пакаленнямі «бацькоў» і «дзяцей» займае далёка не апошняе месца ў сусветнай літаратуры.

«Кожны індывід (група, пакаленне), — адзначае класік расійскай сацыялогіі Юрый Лявада — калі ўступае ў сацыяльны свет, абавязаны выбіраць з гатовага набору стэрэатыпаў». Праблема, аднак, палягае ў тым, што са з'яўленнем інтэрнэту магчымасць выбару павялічылася шматкроць. Пры гэтым большасць варыянтаў — да радасці адных і да жалю іншых — дзяржава нязадольная кантраляваць.

Дазволю сабе цытату з артыкула «Азбукі паліталогіі» «Рэванш правага паўшар'я», напісанага ў 2015 годзе: «У рамане Віктора Гюго "Сабор Парыжскай Божай Маці" ёсць раздзел "Гэта заб'е тое". Што такое "гэта", якое выступае ў ролі забойцы? І што такое "тое", над якім навісла смяротная пагроза? Звернемся да тэксту рамана: «Гэта быў страх духоўнай асобы перад новай сілай — кнігадрукаваннем. Гэта быў жах і здзіўленне служыцеля алтара перад друкарскім варштатам Гутэнберга, што выпраменьвае святло. Царкоўная кафедра і манускрыпт, вуснае слова і слова рукапіснае білі трывогу ў роспачы перад словам друкаваным… < … > Гэта азначала, што новая сіла зменіць старую сілу — іншымі словамі, друкарскі варштат заб'е царкву».

Страх духоўнай асобы апраўдаўся. Друкарскі варштат зрабіў даступнай адукацыю не толькі для абраных. Ён паставіў «вытворчасць» рацыянальна думаючых асобаў — такіх, што нічога не прымаюць на веру, — на паток. Новы сацыякультурны тып чалавека зрабіў непазбежным тое, што нямецкі філосаф Фрыдрых Ніцшэ назваў «смерцю Бога».

Без кнігадрукавання Еўропа не змагла б ў увайсці з Сярэднявечча ў Новы час, і на змену гістарычнай статыцы не прыйшла б дынаміка. Другі раз праяўлю слабасць і працытую сам сябе: «Гэта спачатку слова было ў Бога, і Ён валодаў ім на правах манапаліста. Але пасля вынаходніцтва друкарскага варштата патэнт на права карыстацца словам атрымалі тысячы адукаваных людзей: палітыкаў, пісьменнікаў, журналістаў».

### Праблема пастаўленая

Гісторыя паўтараецца. Чарговае «гэта» забівае чарговае «тое»: інтэрнэт падводзіць рысу пад словам друкаваным. Права карыстацца словам на нашых вачах ад прафесіяналаў пераходзіць да хатніх гаспадынь, што наносіць смяротны ўдар па аматарах манапалізаваць уладу, — прамое народаўладдзе. Ці не пра такое марыў правадыр сусветнага пралетарыяту Уладзімір Ленін?

А цяпер самы час звярнуцца да мінулага VI Усебеларускага народнага сходу. Галоўная праблема, з якой сутыкнуліся яго арганізатары і шараговыя ўдзельнікі, не адрозніваецца ад праблемы духоўнай асобы з рамана Віктара Гюго. Адпаведныя доказы раскіданы па ўсім дакладзе. Пачну з трэцяга абзаца: «Такіх момантаў у гісторыі нашай краіны, калі мы былі ў складзе Савецкага Саюза і незалежнай Беларусі, было няшмат. Сучасны перыяд можна параўнаць з развалам Савецкага Саюза і яго наступствамі. Сучасны перыяд можна параўнаць з першым Усебеларускім народным сходам. Гэта бліжэй. Розніца толькі ў тым, што тады была поўная нявыкрутка. Не было краіны, не было наогул нічога. Пераломны момант, хаос у розумах людзей».

Праблема пастаўленая. Гэта праблема хаосу ў людскіх розумах. Звяртаюся да Вікіпедыі: «Хаос у міфалогіі — першапачатковы стан свету да з'яўлення чаго б тое ні было». Беларуская мадэль нарадзілася з хаосу «ліхіх 90-х», з адсутнасці ўсялякай надзеі, і… — зрабіўшы круг, яна можа туды вярнуцца.

Дапусціць гэтага нельга! Нельга! Вы чуеце?! 2021 год не выпадкова абвешчаны ў Беларусі Годам народнага адзінства. У адзінстве наша сіла, што і прадэманстравалі дэлегаты VI УНС апладысментамі. Аднак адзінства ў думках і справах недасягальнае без адзінства ў інфармацыйнай прасторы.

Кантраляваць друкарскі варштат умелі і бальшавікі ленінска-сталінскага разліву. Кантраляваць жа інтэрнэт атрымліваецца толькі ў кітайскіх таварышаў: «Малайцы кітайцы, яны выкінулі каля дзесяці мільярдаў долараў і ізаляваліся, стварыўшы свой інтэрнэт».

У Беларусі лішніх мільярдаў няма. Адсюль страх. Пад яго дыктоўку і напісаны тэкст дакладу. Учытайцеся: «Мы тут (у пытаннях інфармацыйнай палітыкі. — **С.Н.**) сур'ёзна праігралі. Занадта спадзяваліся на нашу моладзь і нашых людзей. Што нас гэтая бяда не закране, мы ж сумленныя і справядлівыя». «Свядомасць людзей — у руках найбуйнейшых гігантаў інтэрнэт-індустрыі, паслугамі якіх не грэбуюць карыстацца спецслужбы асобных дзяржаў. Нам гэта вядома па мінулым годзе».

### Імпартазамяшчэнне сацыяльных практык

Чарговае «гэта» забівае чарговае «тое», але цяпер з прынцыпова іншай хуткасцю і ў іншым маштабе. Бытавыя і прафесійныя навыкі бацькоў і дзядоў дэвальвуюцца, асвойваць жа тэхнічныя і сацыяльныя прыбамбасы ў неабходным для жыцця аб'ёме старэйшыя пакаленні не ў стане. Таму нікога сёння не здзівяць першакласнікі, якія тлумачаць настаўнікам правілы карыстання сучаснымі тэлефонамі. У выніку адпрацаваныя стагоддзямі і тысячагоддзямі тэхналогіі перадачы культуры губляюць сваю эфектыўнасць.

Інтэрнэт, у адрозненне ад ранейшых тэхнічных вынаходніцтваў, не варта разглядаць вузка функцыянальна. Ён самадастатковы і здольны да самаразвіцця. Культуролаг Андрэй Пеліпенка адзначаў: «Інтэрнэт — адзін з ключавых фактараў сучаснай культурна-антрапалагічнай эвалюцыі. Яго развіццё адлюстроўвае глыбінныя тэктанічныя працэсы ментальнай і гістарычнай эвалюцыі, змест якіх раскрываецца толькі з вялікай часовай дыстанцыі».

* * *

11–12 лютага мы мелі магчымасць назіраць, як культура, якая страціла здольнасць да ўзнаўлення, спрабуе падоўжыць сваё існаванне ў гісторыі. Пры гэтым яна нават не робіць спробаў ускочыць у апошні вагон. У будучыні ёй месца няма. Усё, на што яна яшчэ здольная, — гэта акукліцца з дапамогай імпартазамяшчэння, але не толькі тавараў і паслуг, аднак найперш — сацыяльных практык.

# Пераслед, які варты фельетону

Сяргей КАЙКО

**Пікетуюць снегавікі і тавары ў краме на прылаўку. Судзяць за прабежку і аўтамабільны клаксон. Буслы на аўтобусных прыпынках праяўляюць асаблівы цынізм.**




Фота з інстаграм typicalborisov

Украіне працягваецца крыжовы паход супраць нязгодных з дзеючай уладай. Не тое зрабіў, не тое сказаў, не тое напісаў у чаце. Судовы канвеер працуе, не ведаючы перадыху. Ці не кожны дзень папаўняецца анталогія прысудаў, якія цяжка спасцігнуць розумам.

## Паміж фельетонам і рэальнасцю

У адным з апавяданняў Уласа Дарашэвіча (быў такі фельетаніст у дарэвалюцыйнай Расіі) расказваецца пра выпадак, як гарадавыя цягалі па акалодках нейкага п'янага бэйбуса. Падазравалі яго ажно ў забойстве свайго калегі — і толькі на той падставе, што дзядзька казаў у карчме, што напярэдадні нібыта еў пірог з паліцэйскім.

За тое яго гарадавыя лупілі, трымалі ў халоднай і ўсё злосна дапытваліся: «Чаму нармальныя людзі ядуць пірагі з грыбамі альбо капустай, а ты, сука, еў яго з паліцэйскім?!» І ў працяг: «Дзе схаваў цела, людажэр?!»

Яшчэ б які год таму мы б перачыталі гэты фельетон з усмешкай. Але сёння такая літаратура гарантавана і імгненна абуджае аналогіі з беларускай сучаснасцю. Жыццё надышло такое, што яго ўжо не перажартуеш, даводзячы да абсурду. Абсурд пагрукаўся ў дзверы сам.

«Сем кулек, як у Сараева», — салдата Швейка, як памятаецца, пасадзілі ў астрог за гэтую рэпліку-алегорыю, выказаную падчас картачнай гульні. Маўляў, злосная непавага да забойства эрцгерцага Фердынанда. Але ці шмат вы знойдзеце адрозненняў гэтай гратэскнай гісторыі ад тых, пра якія прачытаеце ніжэй?

Хіба што толькі адно — у нашым выпадку няма ніякіх літаратурных перабольшванняў. Так усё і было на самай справе.

## Symbal.by: пікетаванне на прылаўку

Напрыканцы студзеня ў краму, якая гандлюе таварамі, аздобленымі нацыянальнай сімволікай, прыйшоў АБЭЗ. Прыйшоў адзін — сышоў з дакументамі, тэхнікай і канфіскаваным таварам.

Тады ж забралі і чатырох супрацоўнікаў Symbal.by. Так крама, якую дзяржава прэсавала яшчэ да выбараў, засталася амаль без персаналу. Зрэшты, гэта яшчэ не «кіно» — «кіно» пачалося пазней, калі справа дайшла да судовых разбіральніцтваў.

У выніку на суткі адправілі ўсіх чатырох, прышпіліўшы ім артыкулы 23.34 (несанкцыянаванае мерапрыемства) і 23.4 (непадпарадкаванне). Канкрэтна намесніку дырэктара Мікіту Броўку і бухгалтару Ксеніі Міклашэўскай інкрымінавалі тое, што яны «праводзілі пікетаванне шляхам размяшчэння прадукцыі з сімволікай на прылаўку крамы». Абодвум далі па 20 сутак арышту.

Здаецца, такое пікетаванне — гэта мацней нават за бел-чырвона-белыя пасцілу, лампасы і фіранкі ды жалюзі. Тавар з асартыменту, на які маюцца накладныя і іншыя паперы, цяпер нельга выкладаць на паліцу. Ці можна — аднак з санкцыі Мінгарвыканкама аб масавым мерапрыемстве з касавым апаратам і перапынкам на абед.

## Пенсіянеркі з Малінаўкі: суткі за дабро

Два тыдні таму ў сталічным мікрараёне Малінаўка затрымалі групу жанчын сталага веку. Непадалёк ад месца падзей праходзіла акцыя салідарнасці, але мінскія пенсіянеркі мелі іншую мэту — збіралі грошы на дапамогу хвораму дзіцяці.

Суд такое тлумачэнне не надта ўразіла. Большасць з абвінавачаных атрымалі па 15 сутак, і толькі адна бабуля — з 2-й групай інваліднасці — абышлася штрафам.

Сведкам на працэсе выступаў міліцыянер са зменёнымі асабістымі данымі. Ён назваўся Іванам Пятровым і распавёў, што падсудныя выкрыквалі лозунгі і размахвалі бел-чырвона-белымі сцягамі.

## Пенсіянер Качалаў: пікет з дапамогай снегавіка

У сярэдзіне студзеня ў Гомелі судзілі 62-гадовага пенсіянера Сяргея Качалава. У двары сваёй прыватнай хаты мужчына зляпіў снегавіка і напісаў на ім: «Жыве Беларусь». Гэта ён, відома, загнуў — мэтанакіравана і нахабна. Такія снегавікі гэтай зімой прыроўнены ў краіне да інсургентаў і падлягаюць знішчэнню.

Качалаўскі снегавік растаяў сам — узышло сонца. Праўда, над домам самога гомельскага дойліда пачалі збірацца хмары. Яго абвінавацілі ў адзіночным пікетаванні і спрабавалі падвярстаць пад народны артыкул 23.34.

«Выкарыстаўшы бел-чырвона-белую сімволіку і надпіс "Жыве Беларусь", наўмысна правёў адзіночны пікет без адпаведнага дазволу райвыканкама, які выявіўся ў публічным выказванні сваіх грамадска-палітычных настрояў, чым парушыў закон аб масавых мерапрыемствах», — так гучала абвінавачанне.

Падчас суда ў гамяльчаніна пыталіся, ці было снегавіка відаць з вуліцы, якая мэта была ў такой манументальнай скульптуры, ці рабіў аўтар сэлфі на фоне свайго твора. Але ж і абвінавачаны аказаўся цёртым калачом. Адказаў, што ніякай палітыкі ў свайго снегавіка не ўкладаў. І на ўсялякі выпадак дадаў: «Пенсію мы атрымліваем своечасова. Жыць і працвятаць у гэтай краіне можна».

Фінал у гісторыі добры: суд адправіў справу на дапрацоўку, ды там яна, здаецца, і засталася.

## Жанчыны са Ждановічаў: адмывалі Латушку

Не-не, гаворка не пра самога Паўла Паўлавіча, а пра мурал з яго выявай. Ёсць такі ў Ждановічах, што пад Мінскам, паблізу месца жыхарства палітыка. Стварылі яго яшчэ ў жніўні на трансфарматарнай будцы — «неабыякавыя грамадзяне» малююнак час ад часу ганьбяць, а мясцовыя ўпарта аднаўляюць.

Адна са спробаў адмыць зафарбаваны мурал скончылася для двух ждановіцкіх жанчын затрыманнямі. У пратаколе гэта было адлюстравана так, што пазайздросцілі б класікі фельетону: «Знаходзячыся на вуліцы, у грамадскім месцы, са сцяны трансфарматарнай будкі, размешчанай у а.г. Ждановічы, дзе раней фарбай чорнага колеру зафарбавалі намаляваны фарбай партрэт Латушкі П.П., ажыццяўляла верхні змыў фарбы ў месцы зафарбоўвання партрэта, чым груба парушыла грамадскі парадак, выказваючы відавочную непавагу да грамадства».

Усіх відавочна не паважаўшых грамадства (адна з іх маці пяці дзяцей) пазней вызвалілі да суда. Ці быў суд — і што вырашыў — сведчанняў у прэсе няма. Значыць, ёсць спадзеў, што хоць тут вырашылі канчаткова не каціцца ў фантасмагорыю.

## Журналістка Калініна: 2320 рублёў за... што?

Пераслед журналістаў — асобны параграф палітычных рэпрэсій у Беларусі. І асобная ступень абсурду, што відавочна хоць бы з крымінальнай справы Кацярыны Андрэевай і Дар'і Чульцовай.

Аднак пад кафкіянскія матывы мы падвядзем іншае — адміністрацыйку журналісткі TUT.BY Надзеі Калінінай.

Яе забралі 29 студзеня, калі яна, згодна з рэдакцыйным заданнем, накіравалася для асвятлення з'езда дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу ў Мінску. Асвятленне неяк адразу не задалося. Спачатку дзяўчыну не пусцілі ў залу. А пасля таго, як Надзея паціснула плячыма ды рушыла на выхад з Дома культуры, яна была затрыманая.

Судзілі Надзею Калініну паводле класікі — спачатку трое сутак на Акрэсціна, а потым дзівосныя абвінавачванні. Нібыта рэпарцёрка, калі не трапіла на з'езд, выйшла на вуліцу настолькі засмучанай, што недакладна пачала выкрыкваць лозунгі і патрабаваць сумленных выбараў. А затым яшчэ і аказала супраціў пры затрыманні.

У выніку наш самы гуманны суд у свеце, хаця і з другой спробы, прысудзіў Калінінай 2320 рублёў штрафу.

## Шахцёр Корзун: 15 сутак за прабежку

Адзін з удзельнікаў страйку на «Беларуськаліі», салігорскі шахцёр Юрый Корзун ранкам 11 лютага выйшаў з дому, каб прагрэць рухавік аўтамабіля і потым адвесці ў школу дзіця. Выйшаў — і знік.

Як выявілася, яго затрымалі. Прычына — удзел у спартыўным марафоне, які зладзіў Фонд спартыўнай салідарнасці. У межах гэтай дабрачыннай акцыі любы жадаючы мог прабегчы сімвалічныя 2334 метры, зафіксаваць гэты факт у сацсетцы і пералічыць адвольныя сродкі на дапамогу рэпрэсаваным.

Удзельнічала шмат людзей — спартсмены, медыйныя асобы, простыя беларусы. Затрымалі Корзуна, які і раней ужо неаднойчы сядзеў — і таксама паводле нейкага глупства, накшталт чаявання ў парку.

Цяпер атрымаліся ўсё тыя ж 15 сутак. Артыкул 23.34. Ужо і прабегчыся без дазволу ўладаў у нас можа далёка не кожны.

## Кіроўца Падаляка: 15 сутак за сігнал

Днямі, калі ў Мінску збіраліся дэлегаты Усебеларускага народнага сходу, мясцовыя кіроўцы сустрэлі іх непрыязна. Яны гучна і хорам клаксанілі, калі стаялі ў заторах, што ўтварыліся на перакрыжаваннях праз перакрыццё вуліц для пропуску картэжу аўтобусаў.

Аднаго з аўтаўладальнікаў, Паўла Падаляку, за гэта затрымалі на праспекце Незалежнасці — сімвалічна, што наўпрост каля Беларускага дзяржаўнага цырка.

Зрэшты, «цырк» пачаўся пазней — калі мужчына разам з супрацоўнікам ДАІ прыехаў у Цэнтральнае РУУС. Наогул, за гукавыя сігналы кіроўцаў «прыцягваюць» на падставе парушаных правіл дарожнага руху. І караюць штрафамі (у будучым абяцаюць пазбаўляць правоў). Аднак, здаецца, УНС — гэта вельмі сур'ёзна. І псаваць настрой яго ўдзельнікам, якія днём і ноччу дбаюць пра дабрабыт беларусаў, нікому не дазволена.

У РУУС знянацку выявілася, што кіроўца Падаляка адмовіўся заходзіць з холаду ў цёплае памяшканне. Ён упіраўся нагамі, хапаўся за форменнае абмундзіраванне супрацоўніка. Ну, што ты будзеш рабіць — тут выключна непадпарадкаванне, артыкул 23.4 і чоткая «пятнашачка», за якой не заржавела.

## Буслы на прыпынках: асаблівы цынізм

Гэта гісторыя яшчэ не скончаная, але ж і справа тут — крымінальная. І за што: два жыхары Скідаля, жанчына і мужчына, у вольны час і ў розных месцах Скідальскага і Гродзенскага раёна размалёўвалі прыпынкі грамадскага транспарту, масты і іншыя зручныя аб'екты.

Жывапіс быў бяскрыўдны: БЧБ-елачкі, дзяўчаты з БЧБ-валасамі, «Пагоня», надпісы «Далучайся» ці «Жыве Беларусь». Асаблівa выразна і прыгожа ў мастачкі атрымліваліся буслы з белымі крыламі.

Патрапілі тыя птушкі ў выніку і ў абвінавачванне. Гучыць яно так: «цынічная выява ў выглядзе бусла», якая «істотна знізіла эстэтычныя характарыстыкі сцяны».

Пакуль па справе аб «Апаганьванні збудаванняў» праведзена толькі першае слуханне. Працяг абяцае быць захапляльным.

## Гопта: калонія за беспарадкі

Яшчэ адна крыміналка. 12 лютага суд у Жлобіне прызнаў вінаватым мясцовага жыхара Дзмітрыя Гопту. Справа не жарт: нібыта ў жніўні хлопец кідаў у міліцыянераў і ў аўтазакі камяні. Вырак — два гады калоніі.

Гэта быў бы тыповы выпадак для нашых міласэрных часоў, каб не адна акалічнасць. Асуджаны мае асаблівасці — дыягназ F70.1. Ці на побытавай мове — ён разумова адсталы. Маці яго так і кажа: паводле пашпарта Дзмітрыю 21 год, а згодна з узроўнем развіцця — 6–7. То-бок, чалавек, які слаба ўсведамляе свае дзеянні і ўласныя паводзіны кантралюе не можа.

Але ж у Беларусі сёння гэта не вызваляе ад адказнасці. Асабліва, калі справа ідзе пра палітычныя працэсы.

...Фельетон Дарашэвіча пра «пірог з паліцэйскім» заканчваецца тым, што паліцыянта ніхто не забіваў і не еў. Пакуль яго лічылі зніклым і шкадавалі, ён беспрабудна піў па завуголлях і гора не ведаў. Калі ж праспаўся і з'явіўся па месцы службы, лёс падазраванага ў забойстве быў ужо вырашаны. Яго адправілі на катаргу, а даваць справе зваротны ход не захацелі. Яе хуценька закрылі — так спакайней.

Цана свабоды чалавека з таго часу не надта вырасла.

# Таццяна Процька: «У беларусаў

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**«Сістэма ачысціцца», — сцвярджае грамадская дзеячка, даследчыца таталітарызму Таццяна Процька. Яна ведае, што гаворыць, бо на ўласныя вочы бачыла сакрэтныя дакументы архіва КДБ. Гэта яна спрабавала ў 1995 годзе прыцягнуць да адказнасці Івана Ціцянкова, які разарваў дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг, стварыла і шмат гадоў узначальвала Беларускі Хельсінкскі камітэт, вярнула з небыцця імя мітрапаліта Мелхіседэка, які дабіваўся аўтакефаліі беларускай праваслаўнай царквы.**

Усіх іпастасяў Таццяны Сяргееўны, якая ў гэтым месяцы адзначыла юбілей, бадай, не пералічыць. Але сёння перад вамі — шчаслівая жанчына, з якой мы гутарым у гасцёўні яе ўласнага дома, дзе сцены ўпрыгожваюць працы слыннага беларускага мастака і сябра сям'і Алеся Мары.

— Я люблю прыгажосць, і я стварыла сабе прыгажосць, — з усмешкай гаворыць суразмоўца.

Але гутарым мы не толькі пра прыгажосць, а і пра пакручасты шлях з «фізікаў» у «лірыкі», шанцункі і расчараванні, пра цяперашнія падзеі ў Беларусі і будучыню, што чакае ўсіх нас.

## Пра камсамол, скандал са штанамі і маральны выбар

У сям'і светапогляд маленькай Тані фарміраваўся пад уплывам таты, які працаваў журналістам у буйных выданнях, і бабулі, якая не любіла савецкую ўладу, але ніколі асабліва не казала пра гэта. Але аўтарытэтам, безумоўна, быў бацька.

Дзіцячыя і юнацкія гады Таццяны прайшлі па закладзеных савецкай сістэмай рэйках. Каштоўнасці, трансляваныя школай, яна ўспрымала без ваганняў: вучылася на выдатна, заўжды была актыўнай (гэтая якасць не пакідае яе на працягу ўсяго жыцця і ў многім стала вызначальнай), вось толькі з паводзінамі былі праблемы.

— Была камандзірам «зорачкі» ў акцябратах, мы ладзілі сацыялістычныя спаборніцтвы. Мая «зорачка» заўсёды была першай, гэта было так лёгка! Гэта дало не проста ўменне ставіць мэты, але і фарміравала паводзіны, — адзначае Таццяна Процька.

Далей быў камсамол, які, дарэчы, спадарыня Таццяна і дасюль лічыць карыснай з'явай. Таццяна была камсаргам школы, і нават угаварыла аднакласніка (забягаючы наперад, ён потым стане яе мужам) уступіць у камсамол.

— Я заўжды прымала тую сістэму каштоўнасцяў, якую задавала жыццё, і не ставіла яе пад сумнеў да пэўнага часу, — зазначае спадарыня Таццяна. — Наша дэмакратычнае грамадства адмаўляе камсамол і тых людзей, якія яго ўзначальвалі, тыя мэты, якія яны ставілі. Але на самай справе камсамол — гэта дастаткова цікавая рэч. Моладзь мае патрэбу гуртавацца, і калі дзяржава яе не гуртуе, яна гуртуецца сама.



Таццяна і Аляксандр разам 50 гадоў

Суразмоўца ўзгадвае, што ўжо ў студэнцкія часы яна ўбачыла кіраўніцтва камсамола, і тады ёй адкрылася, што яно жыло зусім па іншых прынцыпах і правілах. Былі правілы для «плебсу» — шараговых людзей, і былі правілы для «іх». І гэта надзвычай уразіла Таццяну.

Яна паступіла на фізфак — і стала другой у гісторыі факультэта жанчынай-сакратаром камітэта камсамола. Больш за тое, яе абралі без узгаднення яе кандыдатуры ў ЦК ЛКСМБ. Але фармальна Таццяне трэба было прайсці ўзгадненне «наверсе».

— Тады жанчыны толькі пачыналі насіць штаны. Студэнткам хадзіць ва ўніверсітэт у штанах было забаронена. А я была стылёвая дзеўка, у атэлье пашыла бручны касцюм-двойку, і пайшла ў ім на сумоўе. Трапляю да цёткі, і яна пачала выгаворваць мне, чаму я ў штанах. Ніхто не спытаў ні пра камсамол, ні пра ідэі, ні што я планую, ні пра праблемы, — распавядае Таццяна Сяргееўна.

Таццяна не стрывала і выказала жанчыне, што яна пра гэта ўсё думае. У выніку тая адмовілася з ёй размаўляць. Урэшце дзякуючы намаганням першага сакратара ЦК ЛКСМБ Уладзіміра Падрэза кандыдатура Таццяны Процька была зацверджаная.

— Адзінае, што мяне адрознівала ад іншых, — у мяне не было страху, — зазначае яна. — Ён быў унутры, і мне было сорамна паказаць яго людзям. Напэўна, мая актыўнасць і агрэсіўнасць — цяпер я гэта ўжо разумею — была абумоўлена тым, што я баялася паказаць, што баюся.

Ва ўніверсітэце ёй не раз даводзілася «ваяваць» з адміністрацыяй, вырашаць шматлікія студэнцкія праблемы.

Быў у студэнцкай біяграфіі Таццяны Процька і складаны выпадак. Аднойчы студэнтаў збіралі на дэманстрацыю, і камсамол быў адказны за калону са сцягамі.

— Быў хлопчык, які пачаў з гэтых дзяржаўных сцягоў здзекавацца. Я рабіла заўвагі, але як пачаў адзін — сітуацыя выйшла з-пад кантролю. Лукашэнка, дарэчы, як былы камсамольскі работнік гэтую сітуацыю паводзінаў ведае. Я разумею, што калі гэтая сітуацыя не спыніцца, усё разваліцца. Мы ізалявалі гэтага хлопца, а пасля дэманстрацыі выклікалі яго на камітэт камсамола, дзе я паставіла пытанне пра яго выключэнне з арганізацыі. Мы яго выключылі, але тут яго выключаюць з універсітэта. І я ўстала на дыбы. Пайшла да дэкана і спытала, чаму — бо трэба глядзець, якія ў яго адзнакі. Для мяне гэта была складаная сітуацыя, у якой сутыкнуліся ідэя і лёс чалавека.

Хлопца ўсё ж адлічылі, але на наступны год аднавілі на вучобе.

## Пра сыход з «рэек» і рэабілітацыю беларускай дарэвалюцыйнай навукі

Яшчэ падчас вучобы Таццяна Процька выйшла замуж за колішняга аднакласніка Дзмітрыя Козыра, з якім яны разам ужо 50 гадоў. Калі нарадзілася першая дачка, Таццяна працавала на кафедры фізікі паўправаднікоў, вывучала апраменьванне крэмнію. Яе запрашалі на канферэнцыі, і актыўную маладую жанчыну заўважылі выкладчыкі філасофіі. Ёй прапанавалі пісаць дыпломную працу па філасофскіх праблемах прыродазнаўства. Таццяна зацікавілася.

Ёй параілі звярнуцца да акадэміка Міхаіла Аляксандравіча Эльяшэвіча, які кіраваў аптычнымі назіраннямі за выпрабаваннямі вадароднай бомбы. Ніхто не верыў, што ён стане працаваць з Таццянай, але ён узяў яе да сябе на працу, дзе ў яе пачалася сапраўдная навуковая школа. У суаўтарстве з Міхаілам Аляксандравічам Таццяна публікавалася ў найлепшых навуковых выданнях. Ёй прарочылі вялікую навуковую кар'еру, яна ўжо мела пэўны аўтарытэт. Але з некаторымі рэчамі яна не магла і не хацела мірыцца.

— Савецкая сістэма заключалася ў тым, што табе з дзяцінства выбудоўваюць рэйкі, па якіх трэба моўчкі каціцца. З гэтых рэек ты не пойдзеш у поле пагуляць. Так савецкія людзі і жылі, і тое ж самае спрабуе зрабіць Лукашэнка.

Таццяна вырашыла сысці з «рэек» і стала займацца гісторыяй навукі — аналізам развіцця фізічных ведаў. Пасля абароны кандыдацкай дысертацыі яна, не маючы гістарычнай адукацыі, трапіла працаваць у аддзел па гісторыі навукі Інстытута гісторыі, які стварылі, фактычна, для яе — бо ў Інстытуце філасофіі не знайшлося месца.

У той час ЦК КПБ узяў курс на беларусізацыю, і Таццяна з калегамі стварыла рэспубліканскую праграму «Развіццё навукі ў Беларусі да 1917 года».

— Афіцыйная канцэпцыя была ў тым, што святло ведаў прыйшло на нашу тэрыторыю пасля 1917 года. А мы даказалі, што яму толькі царызм перашкаджаў, бо колькі ні хацелі тут адкрыць вышэйшых навучальных устаноў — усё забаранялася пасля Віленскага ўніверсітэта. Гэта было даказана па кожнай навуковай галіне. Па ўзроўню пісьменнасці ў складзе Расійскай імперыі мы былі на другім месцы пасля прыбалтыйскіх краін.

Канешне ж, такая праца не засталася па-за ўвагай савецкіх ідэолагаў, але Таццяне ўдалося адстаяць сябе і калег.

## Пра «белыя плямы», што прывялі ў архіў КДБ

Пасля гэтага распачаўся новы этап у навуковым жыцці Таццяны Процька — дактарантура Інстытута гісторыі. У той час галоўным ворагам у краіне сталі лічыць бюракратызм, і Таццяна пачала вывучаць яго як навуковую праблему. Гэта вывела яе на даследаванне таталітарнай сістэмы.

На двары была Перабудова, пачалася хваля высвятлення «белых плямаў гісторыі». Рэдактару часопіса «Камуніст Беларусі» і дырэктару партыйнага архіва далі загад напісаць пра гэтыя «белыя плямы» і іх ліквідаваць. Сталі шукаць чалавека, які б мог гэтым заняцца, і прапанавалі Таццяне Процька, якая проста не змагла адмовіцца ад магчымасці паглядзець закрытыя матэрыялы партыйнага архіва і напісаць па іх публікацыю.




Таццяна Процька – аўтарка некалькіх дакументальных фільмаў

— І тут адбыўся сапраўдны пераварот, — узгадвае спадарыня Таццяна. — Павел Дзянісавіч Лапец, дырэктар архіва, даў мне 21-шы вопіс — даклады НКУС (АДПУ) у партыйныя органы. І памеры хлуснi мяне ўразілі.

Пасля публікацыі дакументаў і каментарыяў да іх дырэктара архіва абвінавацілі ў «ачарненні партыі» і потым знялі, а Таццяне забаранілі доступ да архіўных матэрыялаў. Але тады яна задала пытанне, на якой падставе гісторыю партыі закрываць ад шараговых камуністаў. Гэты аргумент спрацаваў, і ёй зноў далі дазвол працаваць з дакументамі. Праўда, не з самімі матэрыяламі, а з квіткамі фельд'егерскай пошты, якой іх дастаўлялі.

Сярод іншага, Таццяна Процька знайшла справаздачы аб размеркаванні сродкаў, якія ЦК КПБ прасіла ў Мінфіна. Акурат тады ішла дыскусія — ці жыла партыя на свае ўнёскі, альбо брала грошы ў дзяржавы? І апублічванне гэтага дакумента стала прынцыпова важным, бо партыя карысталася грашыма дзяржавы, што забаронена.

А потым нечакана Таццяне далі дазвол на працу з дакументамі ў архіве КДБ. Канешне, не з усімі: некаторыя старонкі былі закрытыя, і побач з даследчыцай сядзеў капітан, які кантраляваў, каб яна глядзела толькі тое, што ёй дазволена.

— Мне далі дакументы па пажарах, працы з беспрытульнымі дзецьмі, эпідэміямі... Але вось даведка пра беспрытульнікаў — і ў ёй, сярод іншага, напісана: «Забяспечыць інфармаванне сярод персаналу, які займаецца беспрытульнікамі». І на колькі дзяцей павінен быць адзін паведамляльнік. Адзін радок — і ўся сістэма барацьбы з беспрытульнікамі мае зусім іншы выгляд, — заўважае даследчыца.

Аднойчы Таццяну Сяргееўну папрасілі паабяцаць, што яна не будзе глядзець па-за дазволеных старонак — тады капітана-наглядчыка прыбяруць. Але яна сказала, што не можа гэтага абяцаць. Тады ёй дазволілі глядзець усё пры ўмове, што яна не будзе рабіць запісаў.

— Гэта адзіны раз, калі я пашкадавала, што дала слова і выканала яго, — дакарае сябе суразмоўца.

Даследчыцу цікавіла праца сістэмы, таму першы час яна глядзела цыркуляры. А потым ёй дазволілі глядзець асабістыя справы людзей. Калі Таццяна Сяргееўна распавядае пра гэта, яе голас мяняецца і пачынае крыху дрыжаць, а вочы становяцца вільготнымі.

— Гэта быў другі шок: як людзей ламалі — і яны ламаліся. І гэты шок застаўся...

Сярод іншага яна бачыла рэабілітацыйныя справы, да якіх прыкладалі паказанні арыштаваных у 1939–1940 гадах катаў, што ў 1937 выбівалі паказанні з ахвяр. Там яны апісвалі, як здзекаваліся з людзей. Былі і звароты ў ЦК КПБ, дзе людзі апісвалі, як іх каталі.

За час працы ў архіве КДБ Таццяна Процька страціла 6 кілаграмаў вагі.

# вельмі добрая будучыня»

— Але сістэма павінна ачысціцца. Як і лукашэнкаўская сістэма. Калі мяне ў жніўні паклікалі на сустрэчу ў парламенце (14 жніўня 2020 года прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці і праваабаронцы сустракаліся з прадстаўнікамі ўлады, каб знайсці выйсце з палітычнага крызісу. — **НЧ**), я адкрыта сказала: не думайце, што цяпер б'юць дэманстрантаў — потым возьмуцца за вас. Сістэма павінна ачысціцца, рэпрэсіі — яе бензін. І вы ўсе праз гэта пройдзеце. Але прызначаны, а не выбраны парламент аказаўся не здольны вырашыць гэты крызіс.

## Пра кнігу, змаганне за сцяг і два расчараванні

Пасля яшчэ была праца ў архіве ФСБ у Маскве, і ў выніку назбіраўся матэрыял на цэлы фаліянт пра станаўленне савецкай таталітарнай сістэмы ў Беларусі ў 1917–1941 гадах. Паўстала праблема з выданнем — ніяк не ўдавалася знайсці фінансаванне на выпуск кнігі і тыпаграфію.

— Гэта было першае расчараванне. Трэба было сістэматызаваць матэрыял, да таго ж паспрабуй напішы 500 старонак ад рукі. А нікому гэта аказалася непатрэбна. Была сярэдзіна 1995 года — і мне казалі, што я спазнілася, і гэта ўжо нікому не цікава.

Але Таццяна Процька не губляла надзеі выдаць кнігу. Аднойчы Рыгор Барадулін прапанаваў ёй узначаліць аддзел гісторыі ў новым часопісе, які збіраліся ствараць. Калі праект займее поспех, ён паабяцаў знайсці грошы на выданне кнігі. Таццяна пагадзілася, і хоць лёс таго часопіса так і застаўся цьмяным, яна пазнаёмілася з Карласам Шэрманам і іншымі беларускімі дзеячамі. Пачаўся новы этап жыцця — грамадскі.

Пасля ганебнага рэферэндуму 1995 года Таццяна Процька даведалася, што кіраўнік справамі прэзідэнта Іван Ціцянкоў залез на дах рэзідэнцыі прэзідэнта, зняў на той час яшчэ дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг, разарваў, і на яго кавалках паставіў свой подпіс з датай. Усё было знята на камеру тэлебачання.

— Мне ўзгадалася гісторыя са сцягам і хлопчыкам, якога потым выключылі з універсітэта. Я прыйшла на сход беларусаў свету, які тады адбываўся, і сказала, што сцяг — гэта сімвал. І калі ён паламаны — няма нацыі. Гэта крымінальнае злачынства — і я прапанавала пайсці ўсім у Генеральную пракуратуру і падаць заяву.

У пракуратуру Таццяна пайшла ўдваіх з калегам. Заяву прынялі.

— Было палажэнне, дзе сказана, што, калі ў злачынстве ўдзельнічалі людзі з наменклатурнага складу, гэта робіць злачынства больш цяжкім. А тое было бясспрэчнае злачынства, бо яшчэ не прайшло 10 дзён з дня рэферэндуму, пастановы аб змене дзяржаўнай сімволікі не было, да таго ж ён меў рэкамендацыйны характар. І ўся пракуратура падзялілася напалам — тыя, хто мяне падтрымліваў, і тыя, хто на мяне нападаў.

Тым часам Ціцянкоў надрукаваў у «Народнай Волі» натату, што ён нічога не рабіў і паважае закон. Плёнку, на якой было зафіксавана злачынства, загадалі знішчыць. Але так выйшла, што запіс ацалеў. І яго выставілі на продаж.

— Мне прапанавалі яго купіць за 150 долараў. Але ў мяне не было тады такіх грошай, — узгадвае Таццяна Процька.

Але плёнку ўсё ж атрымаць удалося. З ёй Таццяна пайшла ў пракуратуру.

Праўда, дэманстрацыя не пераканала работнікаў пракуратуры. Неўзабаве ведамства даслала адказ, што знявагі дзяржаўнага сцяга не было, а была замена зношанай палатніны сцяга з парушэннем дзеючай інструкцыі. Асобнай фразай ішло, што «прэзідэнту пра гэта паведамілі». А саму Таццяну прыгразілі прыцягнуць да адказнасці за абразу.

Яна спрабавала працягваць змаганне, звярнулася да грамадскіх дзеячаў, у БНФ — каб людзі масава пісалі заявы ў пракуратуру. Але яе не падтрымалі. І гэта стала другім яе расчараваннем.

— Са знявагі сцяга пачалося, і цяпер, праз 25 гадоў, сцягам усё заканчваецца. З сімваламі нельга так абыходзіцца, — зазначае спадарыня Таццяна.

## Пра БХК і цэтлік «здрадніцы»

Паралельна з апісанымі вышэй падзеямі суразмоўца трапіла на арганізаваную Польскім Хельсінкскім камітэтам канферэнцыю. Там выканаўчы дырэктар Міжнароднай Хельсінкскай федэрацыі прапанаваў ёй стварыць праваабарончую арганізацыю — Беларускі Хельсінкскі камітэт.

Каб зарэгістраваць яго, трэба было сабраць прынамсі 50 чалавек, якія б прадстаўлялі ўсе вобласці краіны. У БХК увайшоў цвет беларускага дэмакратычнага руху таго часу — Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Святлана Алексіевіч, Карлас Шэрман, Уладзімір Арлоў, Генадзь Бураўкін, Павел Шарамет... Цікавая і малавядомая дэталь: першы юрыдычны адрас БХК знаходзіўся ў Інстытуце гісторыі НАН — Таццяна звярнулася з такой просьбай да калег, і яны не адмовілі.

Першыя гады арганізацыя была вельмі ўплывовай. Яна займалася выпадкамі парушэння правоў чалавека, стварыла грамадскія прыёмныя. БХК пачаў супрацоўнічаць з прэсай, планавалася зрабіць 10 праваабарончых выпускаў «Народнай Волі». У выніку выйшла толькі 8 — і яны каштавалі Таццяне Процька праваабарончай кар'еры. Паплечнікі сталі прыпісваць ёй прэзідэнцкія амбіцыі, якіх насамрэч не было.

Касых позіркаў у яе бок дадало і тое, што яна лічыла глупствам тактыку нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі адмаўляцца ад дыялогу са «злачыннымі ўладамі».

— Гэта вялікая памылка. У таталітарнай і аўтарытарнай сістэмах ёсць адзіны механізм перабудовы грамадства і ўсяго жыцця — гэта ўлада. Таталітарная сістэма знішчае іншыя механізмы. І аддаць проста так самы дзейны механізм у рукі тых, каго ты лічыш ворагам, каб захаваць сваю «цноту», — я гэтага не разумею.



У архіве Таццяны Процька ёсць фота з Білам Клінтанам




Плён працы Таццяны Процька — яе кнігі

Так Таццяна Процька трапіла ў лік «здраднікаў». З'явіўся ліст аб яе выключэнні з пасады старшыні БХК, які падпісалі Быкаў, Барадулін і іншыя. Нацыянальная інтэлігенцыя ў асобе Быкава сказала ёй: «Выкручвайся сама». І гэтая фраза засталася з ёй на ўсё жыццё. Яна цяжка гэта перажывала, прызнаецца, што не хацелася жыць. Гатовая была ўсё кінуць. Але тады Генадзь Бураўкін ёй сказаў: «Хочаш кідаць — кідай. Але толькі тады, калі пераможаш». І яна паставіла задачу перамагчы.

Затое нечакана вырашылася справа з выданнем кнігі пра станаўленне таталітарнай сістэмы ў Беларусі. У 2002 годзе яна нарэшце пабачыла свет у выдавецтве «Цесей», якое цяпер не існуе. Чаму яно ўзялося за выданне, Таццяна Процька не ведае да гэтага часу.

Аднак неўзабаве Таццяну напаткаў яшчэ адзін удар: у 2004 годзе супраць яе распачалі крымінальную справу за нявыплату падаткаў. Але яна так нічым і не скончылася, а Таццяна Процька неўзабаве пакінула БХК.

## Пра перспектывы і нацыянальную ідэю

Сёння Таццяна Процька шкадуе аб тым, што беларускія дэмакратычныя дзеячы ўпусцілі час і магчымасці.

— Палітыка як рамяство мае базавыя складнікі. Першы — дакладны аналіз сітуацыі. Калі пачытаць Леніна, ён вельмі добра вучыць палітычнаму рамяству. Трэба знайсці, на каго з найбольш уплывовых асоб абаперціся, каб прадстаўляць іх інтарэсы, а яны табе за гэта будуць дапамагаць. Ленін крайне цынічны. Другі складнік — павінна быць дакладна вызначаная мэта і асноўныя моманты, якія яе канкрэтызуюць. А потым — тактыка: як дзейнічаць, каб гэтага дасягнуць.

Але з гледзішча гістарычнай перспектывы ў беларусаў вельмі добрая будучыня, перакананая спадарыня Таццяна.

— Я думаю, што Лукашэнка сыдзе з паста і ў нас будзе парламенцка-прэзідэнцкая форма кіравання.

Цяперашняе пакаленне беларусаў вырасла ў адкрытай інфармацыйнай прасторы, і прызначэння кіраўніка дзяржавы яно ўжо не вытрымлівае, упэўнена яна. Выйсце з палітычнага крызісу яна бачыць толькі праз сумленныя выбары. Але ёсць адна ўмова.

— У нас адна нацыянальная ідэя, як я лічу, — захаваць беларускую дзяржаву. Бо любая нацыя вяршыняй свайго развіцця мае стварэнне сваёй дзяржавы. А калі 80% насельніцтва ўсведамляюць сябе беларусамі — нягледзячы на тое, на якой мове яны размаўляюць, — дзяржава беларуская.

## Пра шчасце, Бога і тое, як зрабіць немагчымае

Пасля ўсіх тых нервовых падзей Таццяна Процька проста захацела быць шчаслівай. І, як прызнаецца, — стала. Для гэтага спатрэбіўся свой дом, кветкі, карціны, цікавыя і блізкія па духу людзі, каханне (якое, на думку спадарыні Таццяны, адначасова — палітыка і мастацтва). Падмурак шчасця для яе — гэта любоў, свабода і дастатковая колькасць матэрыяльных рэчаў, якія забяспечваюць жыццё.

— Нічога ў жыцці нельга перакрэсліць і ніколі яго нельга пачаць спачатку. Але калі хочаш быць шчаслівым — будуй сваё шчасце, толькі не на касцях іншых людзей. Не здраджвай іншым і самому сабе і вер у Бога — бо Ён дапаможа, — дзеліцца сваім рэцэптам суразмоўца.

Адносіны з Богам у яе выбудоўваліся таксама паступова і даволі цікава. Таццяна ў дарослым узросце разам з дзвюма дочкамі хрысцілася ў праваслаўнай царкве, а пасля стала актыўнай каталічкай.

Калі сям'я з мінскай кватэры пераехала ў дом у вёсцы ў Смалявіцкім раёне, там не было касцёла. І ксёндз Уладзіслаў Завальнюк прапанаваў арганізаваць парафію. Так у Смалявічах узнікла парафія ў гонар Святога Валянціна.

— Сёлета будзе 25 гадоў як яна зарэгістраваная. Але тады не маглі набраць 10 чалавек, каб гэта зрабіць — людзі не хацелі прызнавацца, што яны каталікі. Справа ў тым, што ў 1936 і ў 1939 гадах былі дзве аперацыі пад назвай «Польская арганізацыя вайсковая». Шукалі палякаў, а як вызначыць — беларус ты ці паляк? Калі каталік — значыць, паляк. Таму бралі ўсіх каталікоў, запісвалі ў гэтую «Польскую арганізацыю вайсковую» і расстрэльвалі, — распавядае Таццяна Процька.

Парафіі патрэбны касцёл. Аўтара праекта будучага храма знайшла Мая Тодараўна Кляшторная. Калі праект быў гатовы, для касцёла не хацелі даваць зямлю. Урэшце далі — на сметніку, парослым таўшчэзнымі старымі дрэвамі.

— А потым здарылася Божая з'ява. Прайшла навальніца і выбіла некалькі дзясяткаў гэтых дрэваў, пакінуўшы толькі па баках і вызваліўшы месца для касцёла, — распавядае Таццяна Сяргееўна.

Хоць грошай на будаўніцтва храма не было, але абставіны складваліся так, што яны з'яўляліся з розных крыніц, і ўрэшце касцёл быў збудаваны.

Таццяна Процька перакананая, што ў Беларусі павінна быць свая незалежная царква. Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква — і тэма навуковых даследаванняў Таццяны Сяргееўны. Яна напісала кнігу пра праваслаўнага мітрапаліта Мелхіседэка, пры якім распачаўся шлях беларускай царквы да аўтакефаліі, дзякуючы яе клопату ў Мінску з'явілася мемарыяльная дошка мітрапаліту на Архіерэйскім падворку, што каля дома афіцэраў.

Сродкі на праект ахвяраваў Уладзімір Някляеў. І пакуль праект рыхтаваўся, былі атрыманыя неабходныя дазволы ад усіх ведамстваў. Таму, калі надышоў час вешаць дошку, чыноўнікі ўжо не маглі выставіць ніякіх перашкодаў.

— Я напісала Філарэту ліст, што мы не можам дазволіць сабе такую раскошу — забыць гэтага дзеяча. Акурат было 75 гадоў з дня смерці Мелхіседэка. І Філарэт даў дабро. На адкрыцці спявалі «Магутны Божа», прысутнічаў айцец Леанід Акаловіч з БАПЦ. Гэта быў радасны момант у маім жыцці, бо калі я пачынала гэты праект, усе казалі, што гэтага не будзе. Але ў гэтай краіне можна зрабіць усё — проста трэба ведаць механізм. Пасля я падышла да Філарэта і сказала: «Уладыка, каб не вы — гэтага б не было. Вялікі вам дзякуй!». А ён кажа: «Не, гэтага не было б, каб не вы».

**Фота — Яны Трусіла**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Адрадзіць высылку

Вярнуць у Крымінальны кодэкс даўняе пакаранне — высылку ў аддаленыя раёны краіны з забаронай на пражыванне ў буйных гарадах — прапанавалі дэпутаты парламента Казахстана з фракцыі «Ак жол». На думку ініцыятараў, гэты від пакарання трэба адрадзіць для прадпрымальнікаў і бізнесоўцаў, якія сядзяць за эканамічныя злачынствы. Звяртаецца ўвага, што калі арыштоўваюць бізнесоўцаў, іх прадпрыемства часта ліквідуецца, і сотні людзей пазбаўляюцца працы, а дзяржава — падаткаў.

У партыі «Ак жол» лічаць, што адраджэнне практыкі высылкі, якая была выключаная з Крымінальнага кодэкса больш за 20 гадоў таму, не толькі дасць прадпрымальнікам магчымасць займацца бізнесам і далей, але і падыме ўзровень жыцця ў аддаленых раёнах рэспублікі.

Аўтары ідэі адразу ж прапанавалі вызначыць верагодныя месцы, куды можна накіроўваць злачынцаў. Прапануецца не вынаходзіць ровар, а звярнуцца да архіўных даных, паколькі ў Казахстане захаваліся населеныя пункты, куды людзей высылалі яшчэ ў часы царскай Расіі.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЛАТВІЯ. Навучыць любіць радзіму

Давесці ў 2027 годзе колькасць насельніцтва, якое ганарыцца прыналежнасцю да Латвіі, да 95%! Такія кантрольныя лічбы ўсур'ёз прыводзяцца ў «Асноўных напрамках развіцця актыўнай грамадскай супольнасці на 2021–2027 гады», якія цяпер разглядаюць у латышскім Мінкульце.

У Асноўных напрамках Мінкульт прапануе розныя віды пачуцця гонару. Да прыкладу, «пачуццё эмацыйнай прыналежнасці, якому не трэба нейкае рацыянальнае тлумачэнне». Далей ідуць каштоўнасці культуры: «перакананні, традыцыі, звычаі, мова». Рэкамендуюцца таксама «гістарычныя ўспаміны, якія дазваляюць адчуць гонар за сваю дзяржаву, атрымаць натхненне і ганарыцца сваімі каранямі».

Пры гэтым чыноўнікі дапускаюць, што пяць працэнтаў да 2027 года ўсё ж не будуць адчуваць нацыянальны гонар. Тым, хто не здольны на такія высокія пачуцці, рэкамендуецца ганарыцца месцам пражывання, што ўключае «павагу да сям'і, прыродных рэсурсаў і пейзажу».

**Паводле латышскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Адзінарогі замест лакаматываў



Брытанскі прэм'ер Борыс Джонсан заклікае пабудаваць паміж Шатландыяй і Паўночнай Ірландыяй тунель па дне Ірландскага мора або хаця б мост. Нагадаем, што адлегласць паміж двума берагамі — усяго 35 кіламетраў. Ужо рыхтуецца тэхнічна-фінансавае абгрунтаванне праекта.

Між тым, нават сярод лідараў партыі кансерватараў, чальцом якой з'яўляецца Джонсан, вельмі шмат скептыкаў. Што ўжо казаць пра апазіцыянераў, якія рэкамендуюць прэм'еру прыцягнуць да эксплуатацыі будучага аб'екта казачных істот. Напрыклад, адзінарогі, як смяюцца ў прэсе, могуць цягнуць вагоны.

Аднак у крытыкаў ёсць і больш сур'ёзныя аргументы. Мост можа нанесці шкоду суднаходству праз Ірландскае мора. А пабудова тунеля зацягнецца на доўгі час з-за таго, што на дне знаходзяцца нямецкія бомбы часоў Другой сусветнай вайны, якія так і не разарваліся. Усё гэта дазваляе аднесці ідэю Джонсана з марскім тунелем да іншых яго фантастычных праектаў. Раней прэм'ер агітаваў за гнуткія аўтобусы ці масты з кветак.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КІТАЙ. Хлопчыкі фемінізаваліся

Дырэктары кітайскіх школаў атрымалі разнарадку: неадкладна ўзмацніць і прасоўваць сярод вучняў «дух ян», што можна перавесці як «мужчынскі пачатак». Толькі такім чынам, лічыць урад, можна спыніць працэс фемінізацыі, якая, нібыта, ахапіла маладых кітайцаў. Пра гэта сведчаць фізічна слабыя навабранцы, якія прыходзяць у войска. Сапраўды, вайсковыя газеты публікуюць шмат артыкулаў, якія крытыкуюць мяккасць навабранцаў, многія з якіх плачуць падчас базавай падрыхтоўкі. Прычынай такой з'явы названае засілле сярод настаўнікаў фізкультуры жанчын. Таму ўжо прынятае рашэнне адправіць у школы былых спартоўцаў-мужчын. Але гэта толькі частка рэформы. Другім фактарам «фемінізацыі» лічыцца поп-культура, якая навязвае моду на «прыгожанькіх хлопчыкаў». Можна чакаць, што кітайскіх музыкаў хутка прымусяць мець больш суровы выгляд.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Калі хунту забаронена называць хунтай

Алег НОВІКАЎ

**У М'янме адразу пасля ваеннага перавароту 1 лютага распачаліся пратэсты за аднаўленне дэмакратычнага ладу.**




Фота www.bbc.com

Напачатку ў путчыстаў усё складалася някепска. Практычна ўсю паўнату рэальнай дзяржаўнай улады ў краіне атрымаў галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі Мін Аунг Хлайн, які раней кіраваў дзяржавай больш за 40 гадоў. Ён жа ўзначаліў новы орган улады — Дзяржаўны адміністрацыйны савет. Выконваючым абавязкі прэзідэнта прызначылі былога віцэ-прэзідэнта.

Пакуль Мін Аунг прымаў віншаванні з новай пасадай, адбываліся арышты чальцоў грамадзянскага Кабміну і актыву Нацыянальна-Дэмакратычнай Лігі (НДЛ), якая фарміравала ўрад. Сярод іншых была затрыманая Нобелеўская лаўрэатка Аун Сан Су Чжы. Менавіта яна на працягу пяці гадоў фактычна ўзначальвала ўрад. Адначасова быў інтэрнаваны і прэзідэнт Він М'ін, шэраг іншых высокапастаўленых чыноўнікаў. Паводле звестак праваабаронцаў, агулам пасля ваеннага перавароту ў краіне затрымалі больш за 380 чалавек.

Арыштамі клеркаў і лідараў НДЛ справа не абмежавалася. У М'янме ўжо абвешчана надзвычайнае становішча тэрмінам на адзін год. Ваенныя таксама зноў увялі ў дзеянне экзатычны закон, які патрабуе ад грамадзян паведамляць пра тых, хто засядзеўся ў гасцях у позні час. Адна з нормаў таго ж закону дазваляе сілам бяспекі затрымліваць падазроных асоб, абшукваць прыватныя дамы нават без санкцыі суда. У турму могуць трапіць тыя, хто называе кліку Мін Аунга «хунтай».

Цікава, што галоўная віна, якую выстаўляць Аун Сан Су Чжы і яе кампаніі — фальсіфікацыя вынікаў выбараў 8 лістапада 2020 года. Па іх выніках партыя НДЛ атрымала 83% месцаў у парламенцкай асамблеі. У сваю чаргу, Партыя Салідарнасці і Развіцця Саюза, якую курыруюць вайскоўцы, тады пацярпела фіяска.

Лузеры адразу аспрэчылі вынікі галасавання. Сцвярджаецца, што падчас выбараў былі выпадкі ўключэння ў спісы выбаршчыкаў непаўналетніх або выбаршчыкаў без пасведчання асобы. Такіх парушэнняў, быццам, выявілі аж каля 8,6 мільёна выпадкаў. Праўда, у такім разе незразумела, чаму нельга было аспрэчыць вынікі выбараў судовым шляхам, а абавязкова спатрэбілася ладзіць путч?

Таксама вайскоўцы звяртаюць увагу, што ўлада перайшла ў іх рукі паводле вынікаў пасяджэння Савета нацыянальнай абароны і бяспекі — канстытуцыйнага органа краіны, які стаяў вышэй за прэзідэнта і іншыя дзяржаўныя органы. Такім чынам, фармальна слова «путч» прымяніць да дзеянняў генералаў нельга.

Нягледзячы на пералічаныя вышэй аргументы, плюс тое, што вайскоўцы паабяцалі адмяніць надзвычайнае становішча праз год, калі ў краіне пройдуць новыя выбары ўрада, многія на гэтыя аргументы не павяліся. Дзясяткі тысяч жыхароў краіны адразу пачалі выходзіць на вуліцы галоўных гарадоў. У авангардзе выступаў знаходзяцца студэнты, якія блакуюць цэнтральную частку населеных пунктаў. Іх падтрымалі супрацоўнікі як мінімум 70 бальніц — яны абвясцілі страйк, пратэстуючы супраць перавароту.

**Парушэнняў, быццам, выявілі аж каля 8,6 мільёна выпадкаў. Праўда, незразумела, чаму нельга было аспрэчыць вынікі выбараў судовым шляхам, а абавязкова спатрэбілася ладзіць путч?**

Прэса піша, што імклівa фарміруецца нізавая тэрытарыяльная ініцыятыва. У буйных гарадах Янгон і Мандалай мясцовыя жыхары ствараюць групы для назірання за становішчам на вуліцах. Яны патрулююць кварталы, баючыся ў тым ліку рэйдаў сілавікоў. Лічыцца, што феномену нізавой актыўнасці міжволі садзейнічалі новыя ўлады, якія пасля перавароту абвясцілі амністыю для тых, хто трапіў за краты па крымінальных артыкулах. Усяго з турмаў павінны вызваліць каля 23 тысяч зняволеных, што патэнцыйна можа выклікаць рост злачыннасці.

Пакуль грамадзянскі канфлікт у М'янме ідзе па нарастаючай. 14 лютага вайскоўцы і супрацоўнікі паліцыі адкрылі агонь па пратэстоўцах у горадзе Мандалай, каб разагнаць дэманстрацыю. У гарадах на поўначы краіны адбыліся сутычкі паміж пратэстоўцамі і вайскоўцамі, хаця пра ахвяры на дадзены момант не паведамляецца.

Ход канфлікту, хутчэй за ўсё, будзе таксама залежаць ад знешніх акцёраў, якія ангажаваныя ў пракітайскі або праамерыканскі лагеры.

Ваенны пераварот у М'янме выклікаў міжнароднае асуджэнне з боку Захаду. Шэраг краін, у прыватнасці ЗША, Аўстралія, Вялікабрытанія, краіны ЕС, заклікалі Мін Аунг Хлайн вызваліць затрыманых чыноўнікаў і прызнаць вынікі выбараў. Байдэн абвясціў пра санкцыі супраць удзельнікаў ваеннага перавароту ў М'янме. Амерыканскія ўлады таксама маюць намер блакаваць рахункі военачальнікаў.

З іншага боку, Кітай і яго саюзнікі супраць ціску на новы рэжым. 13 лютага кітайскі прадстаўнік адмовіўся далучацца да рэзалюцыі Рады па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з заклікам да вайскоўцаў М'янмы адмяніць надзвычайнае становішча і вярнуць паўнамоцтвы дэмакратычна абраным уладам.

Як адзначаюць спецыялісты, у Пекіне М'янму разглядаюць не толькі як важнага эканамічнага партнёра. Гэтая азіяцкая краіна крытычна важная для Кітая як калідор да Індыйскага акіяну. Такі маршрут у выпадку прамога канфлікту з ЗША і блакавання праліваў у Паўднёва-Кітайскім моры дазволіць кітайцам хутка дыферэнцыяваць знешнія пастаўкі і прадухіліць эканамічную ізаляцыю.

Тым часам 17 лютага стартавалі судовыя слуханні па справе пра фальсіфікацыі, галоўным адказчыкам на якіх з'яўляецца Аун Сан Су Чжы. За іх ходам будзе ўважліва сачыць грамадскасць. Акрамя таго, у краіне пачаў паступова аднаўляцца інтэрнэт, які заблакавалі пасля перавароту. З улікам ролі камунікацый у арганізацыі і каардынацыі пратэсных рухаў, можна дапусціць новую серыю выступаў.

# А заўтра была незалежнасць?

Алег НОВІКАЎ

**Нягледзячы на складаную эпідэміялагічную абстаноўку, 14 лютага прыхільнікі каталонскай незалежнасці масава прыйшлі на выбары рэгіянальнага парламента, каб забяспечыць у ім большасць партыям нацыяналістаў.**



Фота www.korrespondent.net

Зрэшты, самай гучнай сенсацыяй выбараў у Каталоніі ўсё ж стаў фантастычны прарыў правай партыі Vox («Голас»), якая ўпершыню прайшла ў мясцовы парламент з 11 мандатамі. Пры гэтым правыя ўмудрыліся абскакаць усе іншыя партыйныя праекты, якія былі арыентаваныя на Мадрыд. У тым ліку Народную партыю (PP), якая практычна ад канца 1970-х гадоў манапольна дамінавала на ўсёй іспанскай правай сцэне.

Прычым, Vox — партыя, так бы мовіць, вельмі скандальная і эксцэнтрычная. Так, іх лідар Санцьяга Абаскаль Кондэ любіць насіць даспехі канкістадораў і настальгуе па сярэднявечных часах, калі над Іспанскай імперыяй ніколі не заходзіла сонца. Калі ўжо правы электарат гатовы аддаваць галасы такім фрыкам замест PP, то можна смела казаць пра крызіс правага цэнтру.

Аднак фурор Vox — гэта ўсё ж перыферыйная падзея на фоне больш важнай перамогі нацыяналістаў. Праўда, тут прысутнічае адзін парадокс. Фармальна, больш за ўсіх галасоў на выбарах набралі лаяльныя да Мадрыду каталонскія сацыялісты. Яны атрымалі 23 працэнты, а іх фракцыя цяпер складзе 33 дэпутаты.

І ўсё ж дэпутатаў-сацыялістаў у новым парламенце будзе менш, чым прадстаўнікоў трох нацыяналістычных партый. Гэта «Левыя рэспубліканцы» (атрымалі 33 месцы ў парламенце), «Разам за Каталонію» (32 мандаты) і леварадыкальная групоўка «Кандыдатура народнага адзінства» (9 мандатаў). Разам гэта тройца будзе складаць фракцыю ў 74 дэпутаты са 135 месцаў. Маючы большасць, яны і сфарміруюць урад — Жэнералітат, як яго традыцыйна называюць ў Каталоніі.

Такім чынам, вынікі выбараў дазваляюць казаць, што трэнд на атрыманне незалежнасці захаваўся. Цунамі паліцэйскіх рэпрэсій у 2017-м за спробу арганізацыі рэферэндуму аб незалежнасці і паказальная расправа над яго арганізатарамі (адзін з палітыкаў атрымаў 13 гадоў турмы) не спалохалі грамадства. Незалежнікі не толькі не страцілі месцы ў парламенце, але і, наадварот, умацавалі там свае пазіцыі.

Паказальна таксама тое, што нацыяналісты рушылі на выбары без сваіх лідараў. Правадыр «Левых рэспубліканцаў» адбывае турэмны тэрмін за спробу абвясціць суверэнітэт па выніках згаданага вышэй плебісцыту. Кіраўнік «Разам за Каталонію», экс-кіраўнік аўтаноміі Карлес Пучдэмон з-за тых жа падзей трохгадовай даўніны вымушаны быў пакінуць краіну і хавацца ў Брусэлі. Ад таго, каб апынуцца ў іспанскай турме, яго ратуе толькі дэпутацкі мандат Еўрапарламента.

**Вынікі выбараў дазваляюць казаць, што трэнд на атрыманне незалежнасці захаваўся. Рэпрэсіі ў 2017-м за спробу арганізацыі рэферэндуму не спалохалі грамадства**

Нейкай маральнай кампенсацыяй для Мадрыду ў такой сітуацыі можа быць хіба не вельмі вялікая яўка (у параўнанні з папярэднім галасаваннем яна скарацілася на чвэрць). На выбары не прыйшлі менш матываваныя праціўнікі суверэнітэту, якія вырашылі не рызыкаваць здароўем. Акрамя таго, перавага нацыяналістаў над апанентамі вымяраецца ўсяго парай працэнтаў. Трэба быць вялікім авантурыстам, каб абвяшчаць незалежнасць пры відавочнай адсутнасці грамадскага кансэнсусу на гэты конт.

Насуперак гэтым аргументам, пераможцы не хаваюць намер правесці новы незалежніцкі рэферэндум. Прынамсі, усе чальцы будучай кааліцыі абяцалі нешта падобнае ў сваіх выбарчых праграмах. Лідар левых рэспубліканцаў Перэ Арагонэс ужо звярнуўся да Мадрыду з просьбай пра дыялог, а таксама заявіў, што Каталонія пераходзіць «у новую фазу падрыхтоўкі да правядзення рэферэндуму і абвяшчэння Каталонскай Рэспублікі».

Пакуль іспанскі ўрад Педра Санчэса пакінуў прапанову без каментароў. Аднак практычна ўся еўрапейская прэса канстатуе, што 14 лютага Каталонія зрабіла яшчэ адзін крок да суверэнітэту, хаця ніякай канкрэтнай дарожнай карты пакуль няма.

Застаецца згадаць яшчэ адзін цікавы і важны факт. Пасаду кіраўніка рэгіёна будзе займаць ужо згаданы Перэ Арагонэс — прадстаўнік «Левых рэспубліканцаў» (ERC). Ён атрымаў права заняць вакансію кіраўніка Жэнералітату Каталоніі, бо яго партыя на выбарах займела найбольш мандатаў сярод усіх суб'ектаў будучай кааліцыі.

Апошні раз ERC кантралявала Жэнералітат 80 гадоў таму, у часы грамадзянскай вайны. Скончылася тая кадэнцыя трагічна. Франкісты, якія перамаглі рэспубліканцаў увесну 1939-га, не толькі ліквідавалі каталонскую аўтаномію і абвясцілі вайну тутэйшай ідэнтычнасці, але і закатавалі ўвесь партыйны актыў.

Лідара партыі Луіса Кампаніса ўвогуле чакаў жудасны лёс. Яму пашанцавала збегчы ў Францыю, якую хутка, у 1940-м, акупавалі гітлераўцы. Паводле асабістай просьбы Франка, агенты Гестапа знайшлі Кампаніса і экстрадавалі ў Іспанію. Яго чакала турэмная камера, куды прыходзілі бонзы рэжыму, каб паздзекавацца з вязня. Пасля ваеннага суда, які цягнуўся менш за гадзіну, Кампаніс быў абвінавачаны ў вайсковым бунце і забіты. Перад смерцю ён паспеў крыкнуць: «За Каталонію!»

З таго часу фрагментам партыйнай культуры ERC былі фантазіі, што надыдзе адзін цудоўны дзень, калі партыя верне сабе ўладу ў Барселоне. Гэта павінна было стаць помстай за Кампаніса і знакам гістарычнай перамогі каталонскага руху. У гэтым плане няма сумневаў — новы лідар Каталоніі будзе намагацца стаць вартым сваіх гераічных папярэднікаў-аднапартыйцаў, што не абяцае Мадрыду нічога вясёлага.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Садыр Жапараў



Прэзідэнт Кыргызстана, абраны ў студзені гэтага года, відавочна, абавязаны сваёй прэзідэнцкай кар'еры падзеям 5 кастрычніка 2020-га. Тады ў цэнтры Бішкека сабраліся некалькі тысяч чалавек, незадаволеных вынікамі парламенцкіх выбараў. Неўзабаве пачаліся сутыкненні паміж сілавікамі і мітынгоўцамі, якія захапілі парламент. 15 кастрычніка тагачасны прэзідэнт абвясціў, што сыходзіць у адстаўку, — і гэтым ён даў зялёнае святло новым выбарам, на якіх перамог Жапараў.

Цяпер актывісты падзей 5 кастрычніка нагадалі гаранту, каму ён абавязаны сваім кар'ерным узлётам. Яны патрабуюць, каб ім надалі званне «Герой кастрычніцкай рэвалюцыі». Але гэта — толькі частка іх пажаданняў. «Кыргыз Умут» (так называецца арганізацыя «герояў кастрычніцкай рэвалюцыі») таксама запатрабавала ад кіраўніка дзяржавы правесці люстрацыю тых паліцыянтаў, хто разганяў мітынг у кастрычніку, судзіць былога прэзідэнта, а таксама ўсіх, хто быў датычны да фальсіфікацый на выбарах.

Акрамя таго, прапануецца «даць незалежную і аб'ектыўную прававую ацэнку дзейнасці партый, якія "перамаглі" на выбарах у кастрычніку 2020-га».

На першы погляд, ультыматум «Кыргыз Умут» — праява палітычнага інфантылізму. Але, з іншага боку, наўрад ці Жапараў зможа бліжэйшым часам пахваліцца асаблівымі сацыяльна-эканамічнымі поспехамі. Адсутнасць прарываў давядзецца кампенсаваць чымсьці іншым, — напрыклад, дэманстрацыйнымі расправамі над фальсіфікатарамі і сілавікамі.

### Майкл Хігінс



Прэзідэнт Ірландыі — хаця гэта пасада ў краіне хутчэй цырыманіяльная — выклікаў рэзананс сваёй апошняй публічнай заявай. Хігінс напісаў артыкул, у якім нечакана заклікаў ірландцаў не забывацца на злачынствы брытанскага імперыялізму. «Штучная амнезія вакол нязручных аспектаў нашай агульнай з англічанамі гісторыі не дапаможа нам разам пабудаваць лепшую будучыню», — піша ірландскі гарант. Прычым аўтар прапануе працягваць барацьбу з Лонданам далей, паколькі «імперскія дзяржавы выкарыстоўваюць маску сучаснасці для культурнага падаўлення, эканамічнай эксплуатацыі, навязвання панавання».

Такога ад Хігінса менш за ўсё чакалі. Менавіта ён (да абрання на пасаду прэзідэнта быў выкладчыкам сацыялогіі і меў сацыялістычныя погляды) у свой час актыўна падтрымаў ідэю візіту ў Дублін брытанскай каралевы на знак прымірэння паміж былымі ірландскімі сепаратыстамі і брытанскімі каланізатарамі. Пазней ён стаў першым прэзідэнтам Ірландыі, які выступіў у парламенце Вялікабрытаніі, прычым з вельмі міралюбнай рыторыкай.

Тое, што Хігінс прасоўвае такую радыкальную павестку, некаторыя разглядаюць у кантэксце дэбатаў пра магчымае вяртанне Белфаста ў склад Ірландыі. Застаецца дадаць, што брытанская правая прэса, каментуючы артыкул Хігінса, заклікала ірландца не вучыць англічан іх гісторыі.

### Захар Прылепін



Структура аднаго з лідараў расійскага новага левапапулісцкага блока «Справядлівая Расія — За праўду», напэўна, вырашыла прайсці ў Думу на восеньскіх выбарах выключна за кошт патрабавання аднаўлення помніка Феліксу Дзяржынскаму на Лубянскай плошчы ў Маскве.

Помнік заснавальніку ВЧК, нагадаем, быў пастаўлены ў 1958 годзе і прастаяў да жніўня 1991-га, калі яго знеслі як сімвал камуністычнага таталітарызму. Аднак ужо ў часы, калі Лужкоў быў мэрам Масквы, пачалі гучаць патрабаванні рэстаўрацыі манумента. Тым больш, што рашэнне пра яго дэмантаж улады горада афіцыйна не прымалі. Аднак ліберальнай грамадскасці ўдавалася мінімум тройчы не дапусціць вяртання Фелікса на Лубянку.

Цяпер ёй давядзецца супрацьстаяць Прылепіну, які запусціў буйную кампанію за аднаўленне манумента. Хутка ў мэрыю Масквы перададуць хартыю, падпісаную многімі вядомымі людзьмі. Затым пачнецца масавы збор подпісаў пад зваротам да Пуціна, лабіяванне прыняцця рэзалюцый у падтрымку помніка з боку дэпутатаў розных узроўняў. Не выключае Прылепін нават агульнарасійскі рэферэндум на гэты конт.

З улікам цяперашніх настрояў у Расіі, вяртання Жалезнага Фелікса выключаць нельга. Аднак нават сам Прылепін прызнае, што ў Крамлі многія супраць аднаўлення манумента. Там баяцца, што такая акцыя будзе сімвалам рэабілітацыі не столькі Дзяржынскага, колькі сталінізму.

# Ганна Сола не падпісалася за ўладу

Сяргей КАЙКО

**На мінулых выходных гэта была самая высакародная гісторыя ў беларускім спорце. Біятланістка Ганна Сола выйграла бронзавы медаль на чэмпіянаце свету і атрымала ад заўзятараў тысячы сардэчак, лайкаў і віншавальных каментароў у сацсетках.**

Сёння менавіта Ганна — сціплая ўраджэнка Шумілінскага раёна — самая ўлюбёная спартсменка ў зборнай лыжнікаў-стралкоў. Бо біятлон — гэта толькі частка яе цяперашняга вобраза. Другая частка — цвёрдая грамадзянская пазіцыя, якая вылучае дзяўчыну з агульнага шэрагу.

Яна наважылася зрабіць тое, на што не хапіла моцы больш ні ў кага ў камандзе — ні сярод жанчын, ні сярод мужчын.

### Сола і сола

Калі глядзець на ўчынак Ганны з нейкай агульнай званіцы, то ў ім не ўбачыцца асаблівага гераізму. З пункту гледжання чыстай механікі яна ўвогуле нічога не зрабіла — проста вырашыла не ўляпвацца ў сумнеўную гісторыю. Сола моўчкі адышла ўбок, калі да біятлоннай зборнай давялі ідэю аб выключнай важнасці падпісання адкрытага ліста праўладных спартсменаў.

Ганна адмовілася ад подпісу пад тэкстам, у якім нібыта няма нічога зашкварнага, але ж «вы самі ўсё разумееце». Знакамітая антытэза лісту атлетаў свабоды — гэта закамуфляваная падтрымка ўсіх тых жудасцяў, якія абрынуліся на беларусаў з боку дзяржавы пасля 9 жніўня. Выбары, гвалт, рэпрэсіі... Аўтографы пад ухваленнем гэткай палітыкі збіралі пад чуллівай апекай кіраўнічых органаў — збіралі праўдамі і крыўдамі, так што многіх нават наўпрост выкарысталі ўсляпую. Запісалі агулам у лік прыхільнікаў улады — і паспрабуй толькі пікні.

Біятланісты не пікнулі — здаецца, яны свядома падпісаліся, за што потым кучна адграбалі ад заўзятараў у сацсетках і на інтэрнэт-пляцоўках. Асаблівага дыхту карыстальнікі давалі Дзінары Алімбекавай — алімпійскай чэмпіёнцы і, бадай, самай зорнай біятланістцы з сённяшняга складу зборнай. Напачатку яна спрабавала адбівацца ў інстаграме — маўляў, ніхто ў камандзе не падтрымлівае гвалт, а потым проста абмежавала магчымасць дадаваць каментары.

У канфармісты ў выніку запісаліся ўсе біятланісты і біятланісткі каманды. Усе тыя, за спаборніцтвамі якіх беларусы традыцыйна сочаць ва ўсе вочы. Ганна Сола сталася адзінай, хто не паддаўся агульнаму парыву.




Яна пагадзілася на ролю белай вароны, і ніхто з нас не ведае, які ціск для таго ёй давялося пераадолець.

### Гузікі і КДБ

Калі, дачытаўшы да гэтага месца, вы скептычна скрывіліся, тое можна зразумець. Так, гэта не суткі на Акрэсціна, якія выпалі на долю Алены Леўчанкі і Андрэя Краўчанкі. Гэта не звальненне, праз якое прайшлі Аляксандра Раманоўская і Святлана Кудзеліч. І тым больш не крымінальны пераслед, ад якога спрабуе ўратавацца ў Расіі Аляксей Кудзін.

Калі вы скрывіліся, то дарма і заўчасна. Бо не ведаеце кантэкст — і тое месца, якое займае біятлон у спісе дзяржаўных спартыўных прыярытэтаў.

А месца, між тым, вельмі цёплае. Такое, што яму можа пазайздросціць нават хакей — прынамсі сярэдняга звяна. Калі нехта з высокіх чыноўнікаў, надзьмуваючы шчокі, чарговы раз транслюе ў тэлеэфіры тую дакучлівую мантру, маўляў, «дзяржава стварыла ўсе ўмовы», то датычна віду, дзе патрэба шоргаць на лыжах і трапна страляць, перабольшванне тут адносна невялікае і даравальнае. Па беларускіх мерках, наогул — скразныя выгоды. Бо і грашовае ўтрыманне ў біятланістаў добрае, і матэрыяльна-тэхнічная база на ўзроўні, і сучасны цэнтр маецца — у Раўбічах, дзе ў мадэрнізацыю некалі ўбухалі вялізныя грошы. Карацей, патронаў не шкадуюць — і гэта не сказаць, каб алегорыя.

Але галоўнае нават не ў гэтым. А ў тым, што біятлонам шмат гадоў апякуецца адзін з самых уплывовых і рэсурсных уладных інстытутаў — Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Ад 2002 года да 2020-га мадэль працавала ўвогуле лінейна: хто ўзначальваў КДБ, той кіраваў і біятлоннай федэрацыяй — аўтаматычна меў гэткую грамадскую нагрузку. Праз такое сумяшчэнне прайшлі і Леанід Ерын, і Сцяпан Сухарэнка, і Юрый Жадобін, і Вадзім Зайцаў, і Валерый Вакульчык.

Цяперашні «галоўны кадэбіст» Іван Церцель такі спартыўны дадатак да службовых абавязкаў не атрымаў, і наўрад ці з гэтай нагоды засмуціўся — не да таго, яму б іншадумства сярод беларусаў адужаць і ўсіх заходніх лялькаводаў пералавіць. Аднак пераемнасць у біятлоне захавалася. Хай федэрацыяй ужо больш за тры гады кіруе былы трэнер Андрыян Цыбульскі, але цень КДБ яго надзейна ахінае. Бо над БФБ створана Назіральная рада — вышэйшы орган — і там, так бы мовіць, знаёмыя ўсё твары. З Вакульчыкам на чале.

Таму біятлон па-ранейшаму пад надзейнай аховай. І, адпаведна, — пад наглядам магутнага сілавога апарату. А гэта паводле нашай рэчаіснасці шмат да чаго абавязвае — і менеджараў, і трэнераў, і ўласна спартсменаў.

Біятлон — ці не самы строгі від спорту Беларусі. Зашпілены на ўсе гузікі, ён існуе нібыта на асаблівым становішчы.

### Домрачава і Скардзіна

Канешне, будзе перабольшваннем сказаць, што біятланісты і біятланісткі нібы нейкія робаты — жывуць паводле адзінага рэгламенту, як героі Оруэла. Не, яны даволі медыйныя, адкрытыя маладыя людзі, у іх ва ўсіх ёсць інстаграмы, дзе шмат заліковых фотачак. Але ж правілы існуюць — і яны нетыпова эксклюзіўныя для спартыўнага побыту і тыпова будзённыя для стандартаў дзяржбяспекі.

На афіцыйным сайце федэрацыі, напрыклад, ёсць асобны раздзел, дзе акуратна прапісаны алгарытм, які павінен выканаць журналіст, калі ён хоча пагутарыць «пад дыктафон» з умоўнай Ірынай Крыўко. Пад загалоўкам «Парадак падачы заявак для арганізацыі інтэрв'ю» — бясконцы пералік патрабаванняў да рэпарцёра, якія трэба задаволіць, каб ні адна мыш не праскочыла. Пачынаючы з пісьмовага ўзгаднення самой просьбы — з падрабязным спісам асабістых даных інтэрв'юэра, і заканчваючы расповедам пра тэмы гутаркі і пытаннямі, якія плануецца задаць спартсмену.

Нядзіўна, што пры такіх парадках біятланісты часта не проста знаходзяцца пад апекай КДБ, але і фармалізаваныя пад крылом суровага камітэта. Напрыклад, самая славутая з прадстаўнікоў віду — чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар'я Домрачава — была афіцыйна ўладкаваная ў «кадэбэшную» іерархію ў званні старшага лейтэнанта. Дый не толькі яна.

«Амаль усе члены нацыянальнай зборнай — дынамаўцы і служаць у спартыўнай камандзе КДБ Беларусі», — казалі ў сілавым ведамстве яшчэ ў 2014 годзе, і наўрад ці што з таго часу тут змянілася.

Кажуць, былых камітэтчыкаў не існуе, але ўсялякая прымаўка ўмоўная. Домрачава, пакінуўшы спорт і зняўшы пагоны, не імкнецца запісвацца ў спісы адэптаў рэжыму, хаця на працягу кар'еры атрымлівала ад кіраўніцтва і кватэры, і машыны прэміум-класа. Зрэшты, не кажа і нічога насуперак, а проста маўчыць — нягледзячы на тое, што ў кастрычніку сілавікамі быў жорстка збіты яе родны брат Мікіта.

Не маўчыць Надзея Скардзіна — былая паплечніца Домрачавай і таксама алімпійская чэмпіёнка. Яна і ліст свабодных спартсменаў падпісала (за сумленныя выбары і спыненне гвалту), і не аднойчы каментавала актуальныя падзеі. Неяк не вытрымала і ўзарвала сціва эмацыйным запісам: «Ненавіджу вас, АМАП!».

Але ж тое Скардзіна — яна скончыла кар'еру і цяпер жыве ў Швейцарыі, бо выйшла замуж за мясцовага біятланіста. Але ж тое Домрачава — сусветная зорка, якая працуе ў Кітаі поруч з такім жа знакамітым мужам Б'ёрндаленам.

Ганна Сола тут, на радзіме, пад патранажам спецслужбы, якую звычайныя грамадзяне лічаць за лепшае абыходзіць бокам. І яна паказвае, што прынцыпы — хай не геройскія, але дастаткова красамоўныя — для яе важней, чым асабісты філістэрскі камфорт.

### Маршрутка і п'едэстал

Невядома, якія дасягненні і іспыты рыхтуе Ганне спартыўны лёс. У аўторак яна справіла 25-ты дзень нараджэння — ружовы ўзрост для біятлона, які патрабуе сталага спалучэння спрытнасці і разважлівасці. Спецыялісты адзначаюць хуткастрэльнасць Сола, але паспешлівасць не заўсёды ідзе дзяўчыне на карысць.

У суботу ў славенскай Паклюцы ўсё нарэшце сышлося адно да аднаго. На рубяжах у спрынце Ганна звыкла лупіла як з кулямёта — і гэтым разам усе стрэлы ляглі дакладна. А хуткасці на лыжні ёй хапіла, каб ускочыць на п'едэстал.

На дарослым узроўні гэта першая значная ўзнагарода сціплай беларускі, якая вырасла на Віцебшчыне ў вёсцы Завяззе, дзе нават у школу даводзілася хадзіць за тры кіламетры. Узыход да прафесійнага спорту даваўся Ганне цяжка, перарывіста, і ў нейкі час яна нават вырашыла кінуць дурное. Бо не бачыла прасвету — і, адпаведна, сэнсу таўчы ваду ў ступе. Яна сышла з біятлона ў 22, каб ціха з'ехаць на малую радзіму і там — у навапалацкай спартыўнай школе — пачаць пацыху трэніраваць дзяцей.

Кажуць, трансляцыю эстафетнай гонкі з алімпійскага Пхенчхана яна глядзела ў тэлефоне, калі ехала ў звычайнай гарадской маршрутцы. Беларускі квартэт там сенсацыйна выйграў золата, і гэты поспех сяброўак спарадзіў унутры ў Ганны Сола нейкі магічны зрух. Яна вырашыла вярнуцца, каб, сцяўшы зубы, паспрабаваць другі шанец.

Другі раз у тую ж раку — у яе выпадку дыялектыка спрацавала ў плюс. З той наваполацкай маршруткі — праз працу і мэтанакіраванасць — Ганна ўскочыла на сусветны п'едэстал. А ў дадатак да ўсяго яшчэ і стала фаварыткай у вачах заўзятараў. Сыплючы ёй віншаванні ў сацсеткі, беларусы ледзьве не ў кожным першым паведамленні адзначалі, маўляў, цяпер у гэтай зборнай ім ёсць каму суперажываць. І дадавалі што-нішто патрыятычнае накшталт «Жыве Беларусь!» — і тое было дарэчы.

Праз нейкі час, адпачыўшы і ўсвядоміўшы створанае, Ганна выйшла на сувязь у адказ. І напісала: «Дзякую усім беларускім заўзятарам за падтрымку!»

# Крыж аднавілі, прэмію атрымалі, пра даследчыка забыліся

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**У канцы 2020 года за аднаўленне Тураўскага крыжа аўтарскаму калектыву далі прэмію «За Духоўнае адраджэнне». Аднак крыж, які атрымаўся пасля трохгадовай працы, значна адрозніваецца ад таго, над якім не адно дзесяцігоддзе працаваў вядомы археолаг, доктар гістарычных навук Пётр Лысенка. Супрацоўнікі Інстытута гісторыі звярнуліся ў «Новы Час», каб распавесці пра тое, чаму крыж стаў залатым насуперак гістарычным фактам.**

## «Князь Тураўскі»

Сярод гісторыкаў і навукоўцаў археолаг Пётр Лысенка быў вядомы як «Князь Тураўскі». Дзякуючы яго знаходкам Тураву быў дадзены статус горада. У 1962 годзе, калі малады археолаг вывучаў дзяцінец у Тураве, ён знайшоў чатыры свінцовыя абразкі з выявамі святых. Больш за пяць дзесяцігоддзяў — з таго моманту, як яны былі знойдзены, і да таго моманту, як Лысенка пайшоў з жыцця, — гэтыя абразкі былі прадметам яго даследаванняў і навуковых публікацый. У хуткім часе пасля знаходкі археолаг зрабіў выснову: знойдзеныя абразкі прысутнічалі на адной кампазіцыі крыжа, які служыў як напрастольны ў Тураўскім храме. Меркаваная дата яго вырабу — XII–XIII стагоддзе!

Так, у Беларусі з'явілася магчымасць мець рэканструкцыю не толькі крыжа Еўфрасінні Полацкай, але і аднаўлены тураўскі крыж. Аднак пасля сустрэчы з удавой Лысенкі Наталляй Мікалаеўнай Дубіцкай, старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Акадэміі навук, кандыдатам гістарычных навук, якая ўваходзіла ў працоўную групу па аднаўленні крыжа, стала зразумела: не ўсё так проста. Перад пачаткам нашай размовы яна паказала макет крыжа, які вырабіў Лысенка. Ён істотна адрозніваецца ад таго, які прэзентавала Беларуская праваслаўная царква.

## Замест срэбра — золата

У 2017 годзе было прынята рашэнне аб аднаўленні крыжа. «Заўважце, не аб стварэнні новага, а аб аднаўленні крыжа на аснове тых абразкоў, якія былі знойдзеныя», — каментуе Наталля.

У працоўную групу ўвайшлі работнікі Акадэміі навук — Пётр Лысенка і Наталля Дубіцкая, дырэкцыя Інстытута гісторыі, прадстаўнікі беларускай епархіі, у тым ліку Марыя Нецвятаева, ювелір Алег Ермаловіч і прадстаўнікі спонсара — Банка развіцця.

Наталля Мікалаеўна паказвае мне тры пратаколы пасяджэння працоўнай групы, на якія запрашалі яе і мужа. З самага пачатку было вырашана, што будуць падрыхтаваныя чатыры крыжы: для епархіяльнага храма ў Тураве, Тураўскага археалагічнага музея, Мінскай духоўнай Акадэміі і для Лысенкі.

Па словах Наталлі Дубіцкай, спрэчкі пайшлі адразу пасля таго, як адбылася першая сустрэча працоўнай групы. Паўсталі розныя меркаванні наконт матэрыялу аклада крыжа. Верагодна, аклад быў срэбраны, аснова крыжа — кіпарысавая. Аднак прадстаўнікі царквы схіляліся да таго, каб аклад быў зроблены з золата. Урэшце вырашылі пайсці на кампраміс: зрабіць адзін крыж залаты — для БПЦ, а другі — рэканструяваны — для Акадэміі навук.

Гісторыкі не проста так зрабілі выснову, што аклад Тураўскага крыжа не мог быць залаты. Тут дастаткова ведаць, чым з'яўлялася Тураўскае княства ў гэты перыяд. Толькі ў 1158 годзе была адноўлена дынастыя тураўскіх Ізяславічаў. Манамашычы, якія дагэтуль валодалі Туравам пасля смерці Святаслава Ізяславіча, не затрымліваліся ў Тураве і не спрыялі развіццю горада і княства. Грошай у казне не было.

Старшыня Сінадальнага аддзела па царкоўным мастацтве, архітэктуры і рэстаўрацыі Беларускага экзархата Марыя Нецвятаева была пераканаўная, што знойдзеныя Пятром Фёдаравічам абразкі — гэта не гатовыя вырабы, а загатоўкі да басменных адбіткаў, гэтак званыя матрыцы.



**Наталля Дубіцкая: «Атрымліваецца, што Пётр Лысенка аддаў гэтаму пытанню 50 гадоў — і аказаўся не патрэбны»**

— Мы за грошы Банка развіцця зрабілі фізіка-тэхнічную экспертызу гэтых абразкоў у Інстытуце цепла-масаабмена НАН Беларусі, — узгадвае Наталля Мікалаеўна. — Пасля Лысенка звярнуўся да вядомых расійскіх і ўкраінскіх спецыялістаў, якія прадставілі пісьмовыя водгукі аб магчымым паходжанні тураўскіх свінцовых абразкоў. Чаму гэтыя абразкі не маглі выкарыстоўвацца для адліўкі? Іх матэрыял — гэта свінец, прытым, фактычна, чысты свінец. Свінец — гэта высокапластычны метал, і таму немагчыма выкарыстоўваць яго для вырабу матрыцы. А што такое басменнае ціссненне? Гэта тэхніка, калі, напрыклад, бярэцца тонкі ліст срэбра і робіцца адбітак. Што застаецца ў такім выпадку ад свінцу? Ляпёшка!



Крыж, зроблены Лысенкам



Знойдзеныя Лысенкам абразкі

Для такіх мэтаў звычайна выкарыстоўваліся бронзавыя, а не свінцовыя матрыцы. Прытым, экспертыза, якую замаўляў Лысенка, даказала, што дадзеныя абразкі — гэта закончаныя вырабы. У той час, адбіткі неабавязкова было рабіць закончанымі. Галоўнае, каб была выява, а тое, што заставалася на задняй частцы, — не было асабліва важна.

Ювелір Алег Ермаловіч, у сваю чаргу, пасля атрымання прэміі «За духоўнае адраджэнне» ў інтэрв'ю газеце «СБ. Беларусь сегодня» падзяліўся сваім поглядам на тое, чым з'яўляліся знойдзеныя свінцовыя абразкі: «Да мяне прыйшло разуменне, што знаходкі Лысенкі — гэта свінцовыя формачкі, частка тэхналагічнага працэсу, ды і знойдзеныя яны былі на дзядзінцы Турава, там, дзе і размяшчаліся ювелірныя майстэрні. А ўжо гэтыя формачкі, хутчэй за ўсё, і засталіся ад вырабу залатых малюнкаў святых на крыжы».

— Для тагачаснага Турава былі характэрны вырабы са свінцу, — тлумачыць Наталля Дубіцкая. — Пры раскопках было знойдзена шмат свінцовых вырабаў, прытым не толькі побытавага прызначэння, але і дэкаратыўна-прыкладнога. У тым ліку, знойдзены сам кавалак свінцу вагой больш за 20 кілаграмаў. Аднак Праваслаўная Царква не захацела, каб абразкі былі свінцовымі, бо ў такім выпадку ім не будзе пасаваць залаты аклад. Шмат было паралеляў з крыжом Еўфрасінні Полацкай. Не варта забываць, што Еўфрасіння Полацкая была княжной, у якой былі грошы, каб заплаціць за выраб багата аздобленага крыжа. Да таго ж, Полацкае княства тады было багацейшым за Тураўскае. У Тураўскім княстве такіх грошай не было: апошняе «з'ела» будаўніцтва Тураўскага храма. Але крыж быў патрэбны. Які храм без прастольнага крыжа? Зрабілі вось так, магчыма, пазней зрабілі б і іншы. Гісторыю перапісаць немагчыма, бо фізікі даказалі, што выкарыстанне абразкоў у якасці матрыц — немагчымае. Прытым, я сустракалася з ювелірам Ермаловічам і паўтары гадзіны распавядала палітычную гісторыю Тураўскага княства на момант стварэння крыжа».

## Як святая Еўдакія стала Андрэем Багалюбскім

Рэканструкцыю знешняга выгляду крыжа распрацоўваў не сам Лысенка. «Пётр Фёдаравіч — археолаг, не мастацтвазнаўца, таму інтэрпрэтацыю абразкам даваў не ён, — каментуе Наталля Мікалаеўна. — Ён аб'ездзіў усе акадэмічныя цэнтры — і ў Маскве, і ў Ленінградзе, і ў Кіеве, дзе працавалі спецыялісты па старажытнарускай дробнай пластыцы. Зараз іх ужо няма ў жывых. Наведаў ён і духоўныя цэнтры — і Троіца-Сергееўскую лаўру, і Кіева-Пячорскі манастыр, і Уладзіміра-Суздальскі манастыр».

Толькі на адным абразку можна было з дакладнасцю сказаць, хто менавіта быў адлюстраваны на ім. Гэта — Багародзіца, бо была выяўлена ў кананічнай позе: яе рукі працягваюцца ў бок сына. Гэтая поза дала ў свой час зачэпку мастацтвазнаўцам, якія кансультавалі Лысенку, прыйсці да высновы, што абразкі на гарызантальнай перакладзіне крыжа былі размешчаныя згодна з традыцыяй дэісуснага чына. Так, яны мусілі размяшчацца наступным чынам: Багародзіца, Ісус, або Распяцце, Ян Хрысціцель. Абразок, які не быў знойдзены пры раскопках, — гэта меркаваны Ян Хрысціцель, што дало падставы сінадальнай камісіі інтэрпрэтаваць абразы па-іншаму. Так, на адноўленай гарызантальнай перакладзіне крыжа з'явіліся Багародзіца, Распяцце і Ісус Хрыстос.

Зверху на гарызантальнай перакладзіне вырашылі змясціць Кірылу Тураўскага, як і раілі мастацтвазнаўцы Лысенку. Тое, што менавіта ён мог быць выяўлены на гэтым абразку, не дала падстаў для сумневаў і Сінадальнай камісіі БПЦ, бо ён ужо тады быў значнай духоўнай асобай для Тураўскага княства.

На абразку, які размяшчаўся на ніжняй частцы вертыкальнай перакладзіны, — шматпакутніца Варвара, якая часта выяўлялася з крыжам і епітрахіллю. У Тураве яна была сярод найбольш шанаваных святых, яна была жонкай вялікага князя кіеўскага і тураўскага Святаполка Ізяславіча. Пасля смерці мужа Святаслава Ізяславіча новы вялікі кіеўскі князь Уладзімір Манамах выслаў Варвару і яе двух сыноў у Тураў. Яна прывезла ў правінцыйны Тураў шмат адукаванай світы. Мяркуюць, што менавіта яна аказала ўплыў на Кірылу Тураўскага. Пасля смерці мужа Варвара прыняла пострыг, сышла ў манастыр і шмат зрабіла для хрысціянізацыі Турава.

Вызначыць, хто быў адлюстраваны на самым ніжнім абразку, досыць складана. Аднак спецыялісты па старажытнарускай дробнай пластыцы выказалі думку, што гэта магла быць пакутніца Еўдакія, святая раннехрысціянскага перыяду. У адноўленым крыжы на абразку выяўлены вялікі князь Уладзімірскі Андрэй Багалюбскі, які быў кананізаваны... у XVIII стагоддзі.

«Мітрапаліт Павел выказаўся, што на гэтым абразку не можа быць выяўлена жанчына, — кажа Наталля Мікалаеўна. — Марыя Нецвятаева абгрунтавала выяву Андрэя Багалюбскага на абразку тым фактам, што непрацяглы час ён быў Тураўскім князем».

Працяг на стар. 12 »

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**У нашай новай рубрыцы мы будзем імкнуцца максімальна збіраць інфармацыю пра тых, хто сустрэне свой чарговы дзень народзінаў за кратамі.**



Магчыма, хтосьці з нашых чытачоў захоча павіншаваць палітвязня паштоўкай ці тэлеграмай, або адправіць яму грашовы перавод да свята. Магчыма, хтосьці захоча даслаць у рэдакцыю віншаванне, каб мы яго надрукавалі.

Працягваем публікаваць імёны тых, хто адзначыць свой дзень народзінаў у лютым. Шчыра віншуем усіх. Жадаем моцы, здароўя і Вольнай Беларусі!

### 21 лютага

**Арцём Міцук** — фігурант крымінальнай справы пра ўдзел у масавых беспарадках у Мінску 10–12 жніўня. 9 кастрычніка яму прад'явілі абвінавачванне па ч. 2 арт. 293 КК (удзел у масавых беспарадках). За кратамі ён сустрэне свае 20-годдзе.

Адрас для лістоў: СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

**Святаслаў Герасімук** — фігурант крымінальнай справы аб масавых беспарадках у Брэсце, распачатай пасля акцый пратэсту ў горадзе пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Святаслава затрымалі 22 снежня, 24-га перавялі ў СІЗА-7, перад Новым годам яму прад'явілі абвінавачванне па ч. 2 арт. 293 КК. За кратамі ён сустрэне сваё 25-годдзе.

Адрас для лістоў: СІЗА-7, 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

### 22 лютага

**Сяргей Брыль** з Барысава працуе слесарам на «Белпрамімпэкс». Ён сустрэне за кратамі сваё 26-годдзе.

Сяргея затрымалі 23 верасня на працы. Супрацоўнікі органаў сустрэлі яго прама на прахадной, і на падставе таго, што ён нібыта з'яўляецца сведкам па справе нейкага ўгону аўтамабіля, павезлі ў аддзяленне. Затым высветлілася, што на Сяргея заведзена крымінальная справа аб масавых беспарадках. Па месцы яго жыхарства быў праведзены вобшук і канфіскаваная ўся тэхніка.

2 кастрычніка яму было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК.

Утрымліваўся ў СІЗА г. Жодзіна, перавялі ў СІЗА-1.

Адрас для лістоў: СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

### 24 лютага

**Ігара Банцара**, гродзенскага музыку, пасля прымусовай экспертызы ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры псіхічнага здароўя ў Мінску перавялі ў гродзенскую турму. Увесну адбудзецца суд. Музыку абвінавачваюць у хуліганстве. Банцара затрымалі 20 кастрычніка: рана раніцай супрацоўнікі міліцыі забралі яго з кватэры. Да гэтага ён правёў 18 сутак у ізалятары за ўдзел у пратэсных мітынгах. У зняволенні яго трымалі ў адзіночнай камеры, а потым адправілі на прымусовую псіхіятрычную экспертызу.

У канцы студзеня блізкім музыкі стала вядома, што Ігара зноў перавялі ў гродзенскую турму. За кратамі яму споўніцца 41 год.

Адрас для ліставання: г. Гродна, 230023, Турма-1, вул. Кірава, 1.

### 25 лютага

40-годдзе адзначыць **Павел Нядбайла** — жыхар Светлагорска. Быў затрыманы 29 верасня ў межах крымінальнай справы па масавых беспарадках. Павел з юнацтва працуе будаўніком, і за гэты час стаў спецыялістам шырокага профілю: можа заліць маналіт, узвесці сцены, платы, пакласці дах, заняцца ўнутраным аздабленнем. Пастаянны ўдзельнік паўмарафонаў: цяпер яго рэкорд — 21 кіламетр 100 метраў.

Пры затрыманні Паўла збілі. Неўзабаве яму было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК. Павел Нядбайла ўтрымліваўся ў следчым ізалятары ў Жодзіна, затым яго перавялі ў СІЗА-1.

Адрас для лістоў: СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

### 26 лютага

**Алег Рубец** скончыў ліцэй у Пінску і працаваў трактарыстам па адпрацоўцы. За кратамі яму споўніцца 19 гадоў.

Быў затрыманы ў Пінску 10 жніўня разам з сябрам Даніілам Богнатам. Пры затрыманні быў моцна збіты. Падазраваны па справе аб масавых беспарадках (арт. 293 КК). Блізкім і родным Алега і Данііла людзі, якія ўтрымліваліся разам з імі, распавялі, што іх збівалі, прыніжалі, пагражалі па працягу трох дзён — з 10 па 13 жніўня.

Адрас для лістоў: СІЗА-6, 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.





Адноўлены крыж

# Крыж аднавілі, прэмію атрымалі, пра даследчыка забыліся

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 11**

Наталля зноў нагадвае, што Лысенка выказаў меркаванне, што на абразку Еўдакія, — згодна з парадамі буйнейшых спецыялістаў, свецкіх і царкоўных. «Калі ва ўсіх узніклі пытанні па інтэрпрэтацыі гэтага абразка, я лічу, што трэба прыпыніцца на тым, што прапаноўваў Лысенка, бо аўтарытэт спецыялістаў, з якімі раіўся ён, больш важкі, чым тых, хто ўваходзіў у працоўную групу, якая займалася аднаўленнем Тураўскага Крыжа».

Пасля трэцяга пасяджэння працоўнай групы, было вырашана, што будзе абвешчаны конкурс на лепшую інтэрпрэтацыю крыжа. Лысенка быў катэгарычна супраць гэтага. Але калі глядзець на адноўлены Тураўскі крыж, можна сказаць, што да знакамітага археолага прыслухоўваліся не надта. Наталля кажа, што ўся гэтая сітуацыя добра ўдарыла па мужу. У хуткім часе ён пайшоў з жыцця, так і не пабачыўшы, які крыж зрабілі ў выніку.

«Атрымліваецца, што ён аддаў гэтаму пытанню 50 гадоў — і аказаўся не патрэбны, — разводзіць рукамі ўдава Лысенкі. — Пра тое, хто перамог у конкурсе, мы даведаліся ўжо на самой прэзентацыі крыжа».

### «За духоўнае адраджэнне»

Лысенка памёр увесну 2020 года. У верасні таго ж года ўжо прэзентавалі гатовы варыянт крыжа. У выніку было зроблена два крыжа: адзін для Праваслаўнай царквы, другі — для Акадэміі навук. Наталля Мікалаеўна кажа, што розніца паміж імі ў тым, што ізумруд на крыжы для царквы, — натуральны, а для АН ізумруд быў выгадаваны.

Прэмію атрымаў склад аўтарскага калектыву: сябар Беларускага саюза мастакоў Алена Андрушчанка, намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення дзяржаўных спецыяльных культурных мерапрыемстваў і прафесійнага мастацтва — начальнік упраўлення прафесійнага мастацтва Міністэрства культуры, старшыня Сінадальнага аддзела па царкоўным мастацтве, архітэктуры і рэстаўрацыі Беларускай Праваслаўнай Царквы Марыя Нецвятаева і дырэктар ТДА «Залаты плаштан» Алег Ермаловіч. Наталля Мікалаеўна прысутнічала ў зале, калі прадстаўнікам царквы ўручалі прэмію «За духоўнае адраджэнне». Яна ўзгадвае, што пасля агучвання прозвішчаў аўтарскага калектыву, было прамоўлена: «і іншыя».

— А «іншыя» — гэта хто: Пётр Фёдаравіч? — з горыччу пытае Наталля Мікалаеўна. — Працоўная група, якой была дадзена прэмія «За духоўнае адраджэнне», каб адзначыць памяць, зрабілі гравіроўку на адваротным баку крыжа: «Апостал Павел» і «Апостал Пётр», меўшы на ўвазе мітрапаліта Паўла і Пятра Лысенку. Я не разумею, навошта было гэта рабіць? І хто будзе ведаць праз дваццаць гадоў, што апостал Пётр — гэта Пётр Фёдаравіч Лысенка?

Сама Наталля Дубіцкая на прэміі не была адзначана, хоць была сябрам працоўнай групы. Яна не хоча высвятляць, хто меў рацыю, а хто яе не меў. Яна хоча, каб для Акадэміі навук была зроблена рэканструкцыя Тураўскага крыжа, як і было вырашана на адным з пасяджэнняў працоўнай групы: «Я не супраць, каб у царквы заставаўся залаты крыж, але ў Акадэміі навук мусіць быць гістарычная рэканструкцыя. Тут не трэба вялікіх грошай, бо для гістарычнага крыжа золата не патрэбна».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №287

Падпісана да друку 18.02.2021. 8.00. Наклад 3600 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.